


Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

24 ЛІСТАПАДА 2000г. № 47/4079 КОШТ 105 РУБ.



**БУДЗЬМА РАЗАМ!**

*Шаноўныя чытачы! Аформіць падпіску на "ЛіМ" на першае паўгоддзе 2001 года можна ў любым паштовым аддзяленні. Кошт індывідуальнай падпіскі на адзін месяц — **600** рублёў, на тры — **1 800**, на паўгода — **3 600**. Кошт ведамаснай падпіскі на месяц — **1 560** рублёў, на тры — **4 680**, на паўгода — **9 360**.*

**Наш індэкс — 63856.**

*Фота Ул. КРУКА*

***26 лістапада славутаму пісьменніку зямлі беларускай Уладзіміру КАРАТКЕВІЧУ споўнілася б 70 гадоў...***

*Матэрыялы, прысвечаныя юбіляру, чытайце на стар. 4, 6—7, 14—15.*



# КОЛА ДЗЁН

***Час не стаіць на месцы, ён катэгорыя рухомая, зменлівая. Не стаіць ён і ў нас. Няхай сабе не надта шпарка, аднак жа — ідзе, і разам з ім памалу калываецца наш беларускі воз. Не вельмі нагружаны, але і не пусты. І дарога хоць і не гладкая, але ж і без асаблівых рытвін і калдобінаў. Мулкавата на возе, але неяк пхнёмся, як той казаў. Найбольш непакоіць і назойліва вярэдзіць душу адчуванне, усведамленне таго, што гэты наш воз ужо быццам нейкі і не наш. У сэнсе — не зусім беларускі. І конь той жа, і калёсы, і вупраж, і паклажа, і паязджане тыя ж, а — штосьці як бы не так і не тое. Гук нейкі іншы. Гамонка іншая. Песня іншая. У сэнсе — як не тутэйшае ўсё. Мо і прыўкраснае, як гаварыў незабыўны Уладзімір Караткевіч, але — не наскае.***

***Воз гэты — беларускае, калі зноў па-караткевічаўску, гаспадарства, дзяржава нашая. Быццам і жыве яна, і нават, што надта ж узмоцнена сцвярджаецца, не горш, а лепш за гаспадарствы суседнія, ды вось мова яе, запісаная, пазначаная ў самых высокіх дзяржаўных актах першаю, усё больш і больш адпіхваецца, саштурхоўваецца кудысьці ўбок, уніз. Міжволі анекдот, каліць ходкі, згадваецца. Пра песіміста і аптыміста. Першы ўздыхае: "Горш не будзе..." А другі — радасна: "Будзе, будзе!.."***

***У аўторак пачала працу палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу другога склікання. Былі выбраны старшыня палаты і яго намеснік. Прамаўлялі з высокай трыбуны многія. Ды аніхто не аскароміўся, не абняславіўся беларускім словам, моваю гэтае зямлі. А вы кажаце: "Горш не будзе..."***

## *ЛЁН ТЫДНЯ*

У Мінсельгасхарчы прайшла нарада з удзелам кіраўнікоў ільносеючых гаспадарак, ільнозаводаў і НПА "Лён Беларусі". Было адзначана, у прыватнасці, што каб загрузіць магутнасці Аршанскага ільнокамбіната, выканаць пастаўкі па міжурадавых пагадненнях і мець запас сыравіны для паставак на экспарт, трэба штогод атрымліваць яе не менш чым 60 тысяч тон. Сёлета ж будзе атрымана прыкладна палавіна гэтае колькасці. У выніку пастаўлена задача: давесці плошчы пасеваў пад ільном да 80 тысяч гектараў і ўраджайнасць — да 8 цэнтнераў з гектара. Госпадзе, колькі ўжо дзесяцігоддзяў (не гадоў!) гаворыцца пра гэта?!

## *ЛЕГЕНДА ТЫДНЯ*

12 лістапада народнаму пісьменніку Беларусі Андрэю Макаёнку споўнілася б 80 гадоў. Са спазненнем на тыдзень у мястэчку Журавічы Рагачоўскага раёна, на радзіме драматурга, пастаўлены ягоны бюст, там адбылася юбілейная вечарына. І ў сувязі з гэтым карэспандэнт "Народнай газеты" А. Гатоўчыц згадаў такі "выпадак". Пяць гадоў назад, да 75-годдзя з дня нараджэння драматурга, у Журавіцкі музей прывезлі гіпсавы бюст А. Макаёнка работы З. Азгура. "Аблічча драматурга яўна выдавала ўсмешку. Але калі 12 лістапада ніхто не наведаўся ў школу, бюст Макаёнка спахмурнеў. Больш таго, у музейнай вітрыне пад плексігласам трэснула і адвалілася ад ягонай кульбакі пластмасавая рукаятка". Гэта, няйначай, легенда, аднак жа, асаблівая з гледзішча сённяшняга дня, калі занядбаны не толькі мёртвыя, але й жывыя творцы, яна ўспрымаецца горкаю праўдаю...

## *ПАДРАХУНКІ ТЫДНЯ*

За 10 месяцаў сёлетняга года ў сельскагаспадарчай вытворчасці адбылася 94 няшчасныя выпадкі са смяротным зыходам і 175 у выніку якіх людзі атрымалі цяжкія калецтвы. У параўнанні з мінулым годам першых стала крыху менш, а другіх — крыху больш. Куды істотней іншае. Амаль палова загінуўшых (45 працэнтаў) былі ў стане алкагольнага ап'янення. Апошняя лічба не мае, на жаль, тэндэнцыі да змяншэння.

## *АДМЕНА ТЫДНЯ*

У Гомелі 26 лістапада павінен быў адбыцца канцэрт моднай зараз Земфіры. Гарвыканкам канцэрт адмяніў. Прычына? Білетаў было прададзена значна больш, чым наяўнасць месц у зале, а гэта магло б абярнуцца бядою. Аказваецца, падобная перасцярога — не наш прыярытэт. Мэр Лондана адмяніў у мэтах бяспекі ўсе навагоднія мерапрыемствы. Чаму? Ды таму, што паліцыя заявіла: яна не ў стане будзе ўтаймаваць вулічны натоўп, які летась сабраў прыкладна 3 мільёны чалавек. Чалавецтва і тут прагрэсіруе: ужо на першым плане патрабаванне не хлеба, а відовішчаў...

## *ВІЗІТ ТЫДНЯ*

Першы свой замежны візіт новы калінінградскі губернатар, адмірал Уладзімір Ягораў зробіць у Беларусь. Прыедзе ён да нас наладжваць эканамічныя кантакты, але — не толькі. Прыедзе і з пачуцця ўдзячнасці. Аказваецца (пра гэта паведамляе друк), нашы Ліка Ялінская і ансамбль "Чараўніцы" працавалі ў часе выбараў у групе падтрымкі адмірала. Сапраўды: "Куды не трапяць беларусы!"

## *МАЖЛІВАСЦІ ТЫДНЯ*

Як абвясціла Рэспубліканскае аб'яднанне "Белтэлекам", з 1 снежня кожны наш тэлефонны абанент зможа званіць без дапамогі тэлефаністкі ў любую краіну свету, у тым ліку і ў такія, як Турцыя, Кітай, Егіпет, Грэцыя, Аб'яднаныя Арабскія Эміраты, Індыя і г. д. Што ж, дзякаваць Богу, дажыліся і мы да такога дасягнення цывілізацыі. І было б зусім добра, каб яшчэ дажыць і да мажлівасці гэткім жа чынам пазваніць у Мінск з якой-небудзь вёскі на далекаватай ад сталіцы Лоеўшчыне ці зусім блізкай Лагойшчыне...

## *УЦЕКАЧЫ ТЫДНЯ*

Кароткі газетны радок, а ўражвае: "Толькі сёлета звольнілася 900 урачоў і 1500 работнікаў сярэдняга медперсаналу". Куды яны пайшлі? Сёй-той набыў ліцэнзіі на прыватную практыку, а большасць пайшлі ў камерцыю, у так званы бізнес. Прычына, найпершая і найгалоўная, — жабрачыя зарплаты. І рознай строгасці пакаранні тут наўрад ці дапамогуць. Урачы, як і ўсе людзі, хочуць зарабляць і жыць. Альбо: працаваць і зарабляць...

## *ЗАПАСЫ ТЫДНЯ*

Нягледзячы на пэўныя поспехі, наша эканоміка працуе пакуль што, на жаль, не вельмі эфектыўна. Пра гэта гаворыць вялікая колькасць стратных прадпрыемстваў. Прыбытак расце марудней, чым сама вытворчасць, бо няма адэкватнага збыту прадукцыі. Запасы яе ў цэлым павялічыліся ў 1,2 раза, а па асобных відах — у 4—7 разоў. А гэта ж — амярцвенне абаротных сродкаў і зніжэнне зарплаты. Чаму ж прадукцыя не знаходзіць збыту? Прычыны — розныя, але не з апошніх тая акалічнасць, што толькі нейкія 3 працэнты яе ў аб'ёме вытворчасці — новыя вырабы. Планавалася падняць гэты паказчык хоць бы да 15 працэнтаў, ды... Час жа, калі ўсё, у тым ліку і старызна, пастаўлялася па разнарадках, скончыўся. Вось і атрымліваецца: і з запасам, і ў даўгах...

## *РЭКОРД ТЫДНЯ*

У нумары "Звязды" за 21 лістапада — ці не рэкордная колькасць (цэлы дзесятак!) паведамленняў крымінальнага характару: падпалы з ахвярамі, рабаванні, забойствы, гранаты ў шуфлядзе стала універсітэцкай аўдыторыі і г. д. Нагрувашчванне жахаў, казытанне нерваў чытачоў? А калі ўсяго толькі аб'ектыўны зрэз рэчаіснасці, нашага жыцця? У такім разе, як кажуць у Адэсе, хіба гэта жыццё?

ФЕСТЫВАЛІ

# "Лістапад" 2000 года



22 лістапада ў Мінску адкрыўся VII Міжнародны кінафестываль краін СНД і Балтыі "Лістапад-2000". Апошні ў гэтым стагоддзі беларускі кінафорум на гэты раз зрабіўся сенсацыйным: "Лістапад" адкрыўся пэм'ерай стужкі М. Пташука "У жніўні 1944".

Менавіта тым, што наступаў момант ісціны, можна растлумачыць дзіўнае раўнадушша беларускіх журналістаў да "іншаземных" "кіназорак", якія штогод з'яўляюцца сапраўдным упрыгожаннем нашага правінцыйнага свята (сёлета на адкрыццё кінафэсту завіталі рэжысёры Г. Палока, В. Фокін, С. Мікаэлян, І. Салававаў, акцёры М. Бурляеў, А.Ліванаў, Ю. Назараў, В. Букін, Л. Лужына, Д. Міхайлава, К. Смарыгінас). У перапоўненай зале кінатэатра "Кастрычнік" з нецярпеннем чакалі "фільму" М. Пташука (прынамсі, расійскі акцёр В. Букін нават не пасароміўся закрычаць з залы, маўляў, давайце хутчэй глядзець стужку). Было прыемна, што ўрачыстая цырымонія адкрыцця была дынамічнай, не зацягнутай, самым чуллівым момантам якой стала ўганараванне акцёра М. Яроменку, пасмяротна, спецыяльным прызам А. Лукашэнкі "За захоўванне і развіццё традыцый духоўнасці ў мастацтве" (прыз прымалі ўдава артыста, актрыса Г. Арлова і сын М. Яроменка-малодшы).

Але галоўнай інтрыгай першага дня "Лістапада-2000" заставалася прэм'ера фільма "У жніўні 1944" (дарэчы, аўтар сцэнарыя, пісьменнік У. Багамолаў прынцыпова зняў сваё прозвішча з цітраў стужкі). На сцэне рэжысёр М. Пташук не мог схаваць радасці і прызнаўся, што ён вельмі задаволены, шчаслівы, што зняў гэты фільм. А вось ці засталіся задаволенымі гледачы, якім і вырашаць лёс карціны?

**В. БАРАБАНШЧЫКАВА**

# У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

На чарговае пасяджэнне рады Саюза пісьменнікаў былі вынесены пытанні аб прыёме ў творчую арганізацыю, абмеркаванне плана работы СБП на 2001 год, тэмплан выдавецтва "Беллітфонд", аб старшыні Саюза пісьменнікаў.

На прыём у саюз былі прадстаўлены Ірына Дарафейчук, Ірына Хадарэнка, Аліна Легастаева, Сцяпан Сяргей, Вячаслаў Корбут, Наталля Капа, Васіль Медунецкі. У абмеркаванні кандыдатаў, якіх прадстаўляў старшыня прыёмнай камісіі Валянцін Блакіт, прынялі ўдзел Л. Дранько-Майсюк, Ніл Гілевіч, Данута Бічэль, Генадзь Бураўкін, Анатоль Вярцінскі, Навум Гальпяровіч, Віктар Гардзей, Аляксей Дударай і іншыя. У выніку тайнага галасавання ўсе сем прэтэндэнтаў сталі сябрамі СБП.

Зацікаўленым было абмеркаванне плана выдавецтва "Беллітфонд", якое планує выпускаць серыі "Беларускі гістарычны раман", "Мастакі Беларусі", "Беларуская лірыка" і іншыя. Прадстаўляў планы галоўны рэдактар выдавецтва Кастусь Цвірка.

Бурным было абмеркаванне пытання аб старшыні Саюза пісьменнікаў. Выказваліся розныя меркаванні, часам абсалютна дыяметральныя прапановы. Выказаліся Іван Шамякін, Генадзь Бураўкін, Вячаслаў Адамчык, Васіль Зуёнак, Міхась Скобла, Вячаслаў Рагойша, Уладзімір Арлоў, Данута Бічэль, Валянціна Коўтун, Аляксей Дударай, Уладзімір Гніламёдаў, Уладзімір Паўлаў і іншыя.

Прапанова аб скліканні нечарговага з'езда не атрымала падтрымкі большасці рады. Рада яшчэ раз пацвердзіла паўнамоцтвы кіраўніцтва саюза, выконваючай абавязкі старшыні Вольгі Іпатавай.

Рада выказала абурэнне ў сувязі з тым, што Камітэт па дзяржаўных прэміях не ўключыў для абмеркавання кандыдатуру Ніны Мацяш, вылучаную Саюзам пісьменнікаў на атрыманне Дзяржаўнай прэміі Беларусі і даручыў кіраўніцтву Саюза пісьменнікаў узняць гэтае пытанне.

●

Адна са старэйшых на Беларусі вышэйшая навучальная ўстанова — Горацкая сельскагаспадарчая акадэмія — прымала ў праграме свайго 160-гадовага юбілею прадстаўнічую пісьменніцкую дэлегацыю, якая прыняла ўдзел у прэзентацыі кнігі "Акадэмічны вянок". У госці да выкладчыкаў і студэнтаў прыехалі Алесь Пісьмянкоў, Навум Гальпяровіч, Змітрок Марозаў, Павел Вераб'ёў і Анатоль Зэкаў. Яны прынялі ўдзел у літаратурна-музычным вечары, прысвечаным выхаду кнігі. Дарэчы, Змітрок Марозаў, як былы выпускнік ВНУ, увайшоў у склад аўтараў зборніка. Пісьменнікі з Мінска ўзялі таксама ўдзел у арганізацыйным пасяджэнні літаратурнага аб'яднання, якое створана пры акадэміі. Старшынёй яго стаў выкладчык Андрэй Пугач.

Па ініцыятыве выкладчыка, дырэктара Горацкага краязнаўчага музея Уладзіміра Ліўшыца адбылася сустрэча ў Горацкім педвучылішчы, якое знаходзіцца ў пасёлку Леніна. На сустрэчы была прэзентавана кніга вершаў мясцовага аўтара Сяргея Лоцманава.

Прадстаўнікі творчага саюза наведалі мясцовую паэтку, сябра саюза Ніну Кавалёву, якая, нягледзячы на цяжкую хваробу, плённа працуе ў літаратуры.

Сустрэчы на горацкай зямлі паказалі, што ў чытачоў самых розных пакаленняў па-ранейшаму ёсць цікавасць да беларускай літаратуры, да творчасці сучасных аўтараў.

●

Плённа працуе ваенна-шэфская камісія СБП. Графік выступленняў перад воінамі не парушаецца. Вось і нядаўна сябры камісіі пабывалі ў Ваеннай акадэміі Міністэрства абароны краіны. Пра творы беларускай літаратуры, прысвечаныя гераічным старонкам нашай гісторыі, гаварылі з будучымі афіцэрамі Навум Гальпяровіч і Яўген Каршукоў. Яны адказалі на шматлікія пытанні прысутных, прачыталі свае вершы.

**Н. К.**

СВЯТЫ

# Традыцыйныя "Каласавіны"

З году ў год у першыя лістападаўскія дні Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа ладзіць літаратурнае свята "Каласавіны", прысвечанае дню нараджэння славутага беларускага пісьменніка Якуба Коласа. Сёлета, па традыцыі, "Каласавіны" святкаваліся на працягу трох дзён і былі насычаны рознымі сустрэчамі.



*Свята на Стаўбцоўшчыне.*

2 лістапада ў бібліятэцы N 7 імя Якуба Коласа адбыўся дзіцячы ранішнік "Казкі жыцця". На сустрэчу да выхаванцаў дзіцячага садка N 499 прыйшлі малодшы сын Якуба Коласа Міхась Міцкевіч і супрацоўнікі музея пісьменнік Іван Курбека і Святлана Субат. Разам з гасцямі дзеткі чыталі вершы, разгадвалі загадкі і шарады.

З лістапада ў гасцёўні У. Галубка, што ў Траецкім прадмесці, праходзіла навуковая канферэнцыя. Сёлетні форум быў прадстаўнічым, ён сабраў шмат цікавых людзей — пісьменнікаў, навукоўцаў, даследчыкаў творчасці Якуба Коласа з Мінска, Гродна, Магілёва, Брэста. З уступным словам выступілі прэзідэнт Беларускага камітэта Міжнароднага савета музеяў, дырэктар Аб'яднання дзяржаўных літаратурных музеяў РБ Леанід Хадкевіч, дырэктар Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа Зінаіда Камароўская. На канферэнцыі закраналіся розныя тэмы, разглядаліся асаблівасці творчай спадчыны песняра, яго грамадская і асветніцкая дзейнасць. Вось толькі невялікі пералік даследаванняў, якія былі прадстаўлены: "Гуманістычныя праблемы: вечныя тэмы ў публіцыстыцы і эпісталярнай спадчыне Якуба Коласа часу Вялікай Айчыннай вайны" (М. Майсейчык), "Лірызм у апавяданнях Якуба Коласа" (Т. Дасаева), "Спадчына Якуба Коласа ў кантэксце сучаснага грамадскага і літаратурна-творчага жыцця" (М. Мушынскі), "Асветніцкая дзейнасць Якуба Коласа" (Я. Клімуць), "Мастацкая творчасць Якуба Коласа: лінгва-дыдактычны аспект" (Ж. Белакурская)...

Прыгожа аздобіла навуковую частку выступленне ансамбля народнай музыкі "Менскі гармонік" пад кіраўніцтвам Івана Раманчука.

4 лістапада літаратурнае свята прайшло на радзіме Якуба Коласа, на Стаўбцоўшчыне. З вітальнымі словамі да ўсіх прысутных на свяце звярнуўся загадчык аддзела культуры Адміністрацыі Стаўбцоўскага раёна Анатоль Грэкаў. Сярод шаноўных гасцей, што наведалі каласаўскія мясціны, былі малодшы сын песняра Міхась Міцкевіч, в. а. старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў Вольга Іпатава, галоўны рэдактар часопіса "Маладосць" Генрых Далідовіч, дырэктар Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы НАН РБ Уладзімір Гніламёдаў, галоўны рэдактар часопіса "Роднае слова" Міхась Шавыркін.

Літаратурнае свята "Каласавіны" завяршыла паездка ў Мір і экскурсія па Мірскім замку.

**Н. МАКРЫЦКАЯ**

*Фота С. ЛУК'ЯНАВА*

ПАДПІСКА-2001

# "Чытайце беларускае!"

Як і кожны раз у канцы года, на Беларусі распачалася падпісная кампанія на год наступны — 2001-ы. Перад чытачамі — шырокі выбар перыядычных выданняў: ад паважных, асвечаных вядомасцю і даўнімі традыцыямі, што бяруць пачатак яшчэ ў першых савецкіх гадах, да самых розных па змесце і ўзроўні выданняў, што выраслі, нібы грыбы спрыяльнай парою, апошнім часам. Што выпісаць — справа густу, схільнасцяў, жыццёвай пазіцыі і — ці не ў першую чаргу — матэрыяльных магчымасцяў людзей. Сёння, на жаль, люд наш збяднеў, асабліва прадстаўнікі "інтэлігентных" прафесій. Мінуўся той час, калі настаўнікі, скажам, або ўрачы, работнікі культуры і мастацтва выпісвалі па пяць-сем і больш выданняў. Сёння ў нашы хаты і кватэры ідзе звычайна адна, добра калі дзве газеты. Досыць рызыкоўна выводзіць душэўнае здароўе народа з яго матэрыяльнага становішча, бо бывае і наадварот, аднак што праўда, то праўда: заможнае, багатае грамадства стварае куды больш спрыяльныя магчымасці для ўзбагачэння душы.

Тым не менш, наш лімаўскі чытач застаецца з намі. І няхай ён не надта шматлікі, аднак жа ён — наш. Адданы і верны. І гэта — галоўнае! Ён дасылае ў рэдакцыю свае лісты, апавяданні, вершы, рэцэнзіі, артыкулы, роздумы пра час і пра сябе, згаджаецца ці не згаджаецца з лімаўскімі публікацыямі, хваліць штотыднёвік і крытыкуе, робіць заўвагі і прапановы.

Вось толькі некалькі сведчанняў гэтых зусім неабыякавых адносін нашых падпісчыкаў і чытачоў да выдання, якое мы рэпрэзентуем.

❑

Піша вам ваша чытачка, праўда, з нядаўняга часу, Алена Стрыгунова. Я жыву ў Бабруйску і вучуся ў 11-м класе. "ЛіМ", скажу шчыра, выхоўвае мяне, вучыць культуры мовы. На яго старонках шырока асвятляюцца праблемы літаратуры, мастацтва, культуры. Літаральна ўсе матэрыялы я чытаю з велізарнай цікавасцю і карысцю для сябе — яны пашыраюць мой кругагляд, папаўняюць мае веды ў розных галінах, падштурхоўваюць да разваг і аналізу. А не пасрэдным штуршком для пісьма стала вось што. У рубрыцы "Абсягі" рэдка калі натрапляла я паведамленні пра культурныя падзеі ў маім родным Бабруйску. А іх жа, паверце, адбываецца нямала. Таму дазвольце мне праз ваш і мой любімы "ЛіМ" інфармаваць краіну аб сучасных творчых з'явах у старажытным Бабруйску.

**А. СТРЫГУНОВА,**
**чытачка і, спадзяюся, пазаштатны карэспандэнт "ЛіМа"**

*г. Бабруйск*

❑

Чытаю ўсю прэсу на роднай мове. Кіруюся пры гэтым заклікам з рэкламных шчытоў "Купляйце беларускае!", які я для сябе перарабіў у "Чытайце беларускае!"

"ЛіМ" выпісваю даўно. Гэта не толькі мая газета. Гэта газета ўсёй маёй сям'і. "ЛіМ" — самы цудоўны ўзор сямейнага чытання. "ЛіМ" — газета для чытачоў рознага ўзросту і розных густаў і схільнасцяў. Зноў жа, мяркую па сваёй сям'і. Ёсць у штотыднёвіку старонкі, якія ўважліва прачытвае мая жонка Вольга, і ёсць старонкі, на якіх засяроджвае сваю ўвагу мой сын Віталь — яго найбольш цікавяць матэрыялы пра кіно. У нашай нацыянальнай прасторы чытанне "ЛіМа" — праява шляхетнасці, інтэлігентнасці. Жывучы на Беларусі, немагчыма называць сябе інтэлігентным чалавекам, не чытаючы "ЛіМа".

**Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК**

*г. Мінск*

❑

Выпісваю і чытаю "ЛіМ" гадоў дваццаць. Каб арыентавацца ва ўсіх падзеях культурна-мастацкага жыцця і рабіць адпаведныя высновы, не заўсёды хапае часу. Як і ў жыцці, звяртаешся па дапамогу і параду да таго, каму давяраеш. У гэтых пытаннях я давяраю "ЛіМу". Давяраю "ЛіМу", і калі чытаю ягонае "Кола дзён". Аб'ектыўная інфармацыя з дакладнымі і канкрэтнымі выбаркамі фактаў і падзей дае мне магчымасць быць у курсе сацыяльна-палітычнай сітуацыі ў краіне.

Заўсёды з цікавасцю чытаю, вядома ж, музычныя старонкі штотыднёвіка, матэрыялы якіх зроблены на высокім прафесійным узроўні.

Для мяне "ЛіМ" наогул сродак камунікацыі. Я не прапускаю літаратурных публікацый, тэатральных аглядаў і рэцэнзій. Ужо ў самой назве газеты закладзена сфера інтарэсаў кожнага творчага чалавека. Ну і сапраўды, што гэта за інтэлігент, а тым больш творчы чалавек, калі ён не чытае газету творчай інтэлігенцыі краіны? Я не ўяўляю сабе сучасную музыку, мастацтва, літаратуру, наогул беларускую культуру без "ЛіМа".

**Галіна ГАРЭЛАВА,**
**кампазітар**

*г. Мінск*

❑

Хоць "ЛіМ" выходзіць зназвай "газета творчай інтэлігенцыі", мне думаецца, гэта газета ўсё ж не толькі гэтага досыць вузкага кола чытачоў, а і ўсяго нашага народа. Не буду, зрэшты, гаварыць за ўсіх. Скажу за сябе. Для мяне "ЛіМ" — мая газета. "ЛіМ" — гэта змена адной формы занятkaў, дзейнасці, інтарэсаў на другую. Калі груба, дык змена металу, кувалды — на верш, песню. Штотыднёвік, скажу больш, у пэўным сэнсе мая любімая газета, бо акурат на яе старонках я знаходжу адхланне для душы. А калі правільней, дык, пэўна, не адхланне, а спажыву для душы, спажыву для роздуму. Хвалююць мяне праблемы нашай мовы, гісторыі, нацыянальнай культуры. "ЛіМу" і надалей трэба падымаць іх і асвятляць настойліва, рэгулярна, паслядоўна і прынцыпова, пазбягаючы, вядома, празмерных эмоцый і перахлёстаў.

Адзінае, чаго не хапае "ЛіМу", дык гэта артыкулаў пра "вытворчасць". Што маю на ўвазе? Паверце, і сярод людзей вытворчых прафесій ёсць нямала цікавых творчых асоб — шукайце іх, распавядайце пра іх. Глядзіш, і лімаўскія абсягі стануць шырэйшыя, і газета займее новага чытача.

**Уладзімір СУЗЬКО,**
**дырэктар Мінскага доследна-эксперыментальнага механічнага завода, сталы і зацікаўлены чытач "ЛіМа"**

❑

Пачынаючы з часоў перабудовы, "ЛіМ" быў адзінай крыніцай вольнай, незалежнай інфармацыі, адпавядаў беларускаму духу, менталітэту нашага народа. На тым уздыме і наклад яго сягаў пад 20 тысяч асобнікаў. Калі ж з'явіліся іншыя выданні, такія, як "Наша Ніва", "Народная воля", "Навіны" і іншыя, "ЛіМ" заняў іншую нішу і засяродзіў сваю ўвагу на пытаннях творчага, культурна-мастацкага жыцця. Але праблемы нацыянальнай самасвядомасці, сацыякультурнага і гістарычнага быцця нашага народа не зніклі з яго старонак, і гэта робіць "ЛіМ" і сёння цікавым і патрэбным выданнем не толькі для творцаў. Газета адстойвала і адстойвае беларускую справу, шырока асвятляе гісторыю нацыянальнага руху на Беларусі, сённяшні стан свядомасці нашага грамадства, і робіць гэта на добрым, прафесійным узроўні.

Сёння "ЛіМ" — газета творчай інтэлігенцыі, памяркоўнае, разважлівае, прафесійнае выданне. І ўсё ж хочацца бачыць любімую газету не выключна элітарным выданнем. Хочацца пажадаць ёй быць больш сучаснай і па тэматыцы-праблематыцы, і па афармленні.

**Рыгор СІТНІЦА,**
**мастак**

*г. Мінск*

❑

## *"ЛіМу" — дзякуй!*

***"ЛіМу" — дзякуй за ўсё!***
***Як калісьці,***
***Усміхнулася сонца, жыццё,***
***Караліччавічы;***
***Усміхнулася любоў,***
***Сяброўства,***
***Усміхнулася зноў***
***Усё роднае.***
***Зноў з газеты мае —***
***з "ЛіМа" —***
***Усміхнулася да мяне***
***Радзіма.***

**Мая ЛЬВОВІЧ**

*г. Харкаў, Украіна*

❑

Да гэтых чытацкіх лістоў і вусных прызнанняў у любові да нашага штотыднёвіка прасіцца, на заканчэнне, невялічкі каментарый. Зрэшты, не каментарый, а ўсяго толькі інфармацыйны пастскрыптум. Найперш — адносна некаторых іх аўтараў. Так, Алена Стрыгунова паспела пасля ліста даслаць у рэдакцыю некалькі цікавых і змястоўных інфармацый і сапраўды стала нашым пазаштатным карэспандэнтам у Бабруйску. Уладзімір Сузько не проста сталы і зацікаўлены чытач "ЛіМа", як сам сябе называе. Чалавек ён увогуле адметны, мо нават унікальны. Спытаецце, чым? А хоць бы тым, шаноўныя чытачы, што Уладзімір Рыгоравіч ведае на памяць усю "Новую зямлю" Якуба Коласа. Мая Львовіч — вядомая беларуская і ўкраінская паэтка, перакладчыца з беларускай і на беларускую, з украінскай і на ўкраінскую мовы, ураджэнка Гомельшчыны, зараз жыве, як сведчыць подпіс, на Украіне, і кожны нумар нашага "ЛіМа" для яе — як усмешка Радзімы. Што да нашага слыннага паэта Леаніда Дранько-Майсюка, вядомых кампазітаркі Галіны Гарэлавай і мастака Рыгора Сітніцы, дык усе яны ў нейкіх дадатковых каментарыях не маюць патрэбы, прадстаўляць іх лімаўскаму чытачу няма аніякай неабходнасці, іх імёны гавораць за сябе самі.

Вось гэта хацелася сказаць, перш чым звярнуцца да ўсіх сяброў і прыхільнікаў "ЛіМа" ў гэтыя дні падпісной кампаніі з нашым традыцыйным і нязменным: "Будзьма разам!"

**Чытала, апытвала,**
**каментавала**
**Марыя МІХАЙЛАВА**

АБСЯГІ

ГОМЕЛЬШЧЫНА...

## "Край майго дзяцінства"

Так называецца карціна гомельскага жывапісца, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі Мікалая Казакевіча, якая стала пралогам ягонай персанальнай выставы ў карціннай галерэі абласной арганізацыі Саюза мастакоў. Казакевіч нарадзіўся ў цэнтры Беларусі, у вёсцы Дулебы Бярэзінскага раёна Мінскай вобласці. Аб'ездзіў усю краіну, стварыў сотні высокапрафесійных твораў. Сярод іх карціны "Віцебская зямля", "Возера Нарач", "Паводка на Прыпяці", серыя пейзажаў пра гомельскі парк і яго ваколіцы. Лепшыя работы мастака з цыкла "Краявіды Беларусі", якія экспануюцца ў Гомелі, вылучаны на атрыманне Дзяржаўнай прэміі.

## Каб людзі не журыліся

Гомельшчына адзначае 80-гадовы юбілей слыннага земляка, народнага пісьменніка Беларусі Андрэя Макаёнка. У бібліятэках праходзяць сустрэчы з чытачамі. Памяць драматурга была ўшанавана і на літаратурнай вечарыне "Каб людзі не журыліся", якая адбылася ў абласным краязнаўчым музеі. Пра творчыя здабыткі земляка расказаў сакратар абласной арганізацыі Саюза пісьменнікаў Васіль Ткачоў. А на радзіме Макаёнка, у вёсцы Журавічы Рагачоўскага раёна, устаноўлены помнік-бюст. Аўтар яго — гомельскі скульптар Дзмітрый Папоў.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

ВІЦЕБШЧЫНА...

## Музей Караткевіча

Заўтра эпіцэнтр юбілейных урачыстасцяў з нагоды 70-годдзя з дня нараджэння Уладзіміра Караткевіча перамесціцца ў родны горад пісьменніка Оршу, дзе галоўнай падзеяй стане адкрыццё музея. У пачатку стагоддзя ў будынку, які знаходзіцца ў цэнтры горада, месцілася прыватная лякарня. У савецкі час — радзільны дом, у якім і нарадзіўся будучы пісьменнік. Будынак капітальна рэканструяваў. Над афармленнем фасада працавалі фірма "Поўдзень" з Віцебска.

— У кароткі тэрмін, за які быў адладжаны будынак, мы змаглі зрабіць толькі адну экспазіцыю, — гаворыць намеснік старшыні Аршанскага гарвыканкама Валянціна Сіднякова. — Пры пастаянным дэфіцыце бюджэтных сродкаў нялёгка было выкраіць грошы для стварэння новага музея. Але з цягам часу запоўняцца ўсе залы. На мой погляд, музей павінен актыўна прапагандаваць родную мову і гісторыю. Таму тут запланавана абсталяваць залу для прагляду відэафільмаў. У музеі адкрыюцца таксама курсы для авалодання беларускай моваю, а прыгожа абсталяваны дворык будзе выкарыстоўвацца як тэатральная сцэна...

## Пісьменніцкія сустрэчы

На мінулым тыдні ў цэнтральнай абласной бібліятэцы прайшла творчая сустрэча чытачоў з паэтам Алесем Бабаедам. Ён жыве і праце ў Бешанковічах. На сустрэчы прэзентавалася ягоная кніга паэзіі "Ля вогнішча".

А пісьменнік Франц Сіўко сустракаўся з непаўналетнімі злачынцамі, што адбываюць тэрмін пакарання ў Віцебскай працоўнай калоніі-3. Ён з цікавасцю азнаёміўся з умовамі жыцця і побыту юнакоў. Потым адбылася гаворка, у час якой закраналіся самыя розныя аспекты творчай дзейнасці чалавека і праблемы маральнага выхавання.

**Святлана ГУК**

МАГІЛЁЎШЧЫНА...

## Тэатр фламенка

З 20 па 30 лістапада ў абласным цэнтры праходзіць чарговы фестываль "Беларуская музычная восень", арганізаваны мясцовай філармоніяй. Свята музыкі адкрылася выступленнем Іспанскага Тэатра фламенка Томаса дэ Мадрыда. Дарэчы, гэты калектыў упершыню гастралюе ў нашай рэспубліцы.

## Кітайская культура ў Шклове

Зараз у Шклове, у мясцовым гісторыка-краязнаўчым музеі, экспануецца выстава пад назвай "Кітай: сляды старажытнай культуры". Выстава прадстаўлена амбасадай КНР у Беларусі. На ёй экспануецца каля паўсотні каляровых фотаздымкаў, вырабы кітайскіх майстроў з гліны, фарфору, камення... Можна ўбачыць тут традыцыйныя жаночыя упрыгожванні і нацыянальныя строі.

**Алесь ПЯТРОВІЧ**

ГРОДЗЕНШЧЫНА...

## Беларуска-польскі фестываль

Восьмы міжнародны фестываль "Артыстычныя сустрэчы Гродна—Беласток" адбудзецца заўтра ў горадзе над Нёманам. Удзел у ім традыцыйна прымаюць лепшыя калектывы мастацкай самадзейнасці гарадоў-пабрацімаў па абодва бакі граніцы. Прычым, адметнай рысай фестываля з'яўляецца тое, што палякі падчас яго правядзення спяваюць па-беларуску, а беларусы наадварот — па-польску.

Гродна і Беласток па чарзе прымаюць "Артыстычныя сустрэчы". Сёлета такі гонар выпаў беларусам. На сцэне абласнога драматычнага тэатра выступяць ужо вядомыя гараджанам і новыя, яшчэ не знаёмыя, творчыя калектывы: хор "Крыніца", ансамблі "Рассыпаны гарадок", "Чыжавяны", "Цаглінкі", "Хлопцы-рыбалоўцы" з польскага боку; народныя хоры "Прамень" і "Зараніца", ансамблі "Радуньскія салавейкі", "Крэсавякі" і іншыя — з беларускага.

Арганізатарамі фестывалю выступаюць упраўленне культуры Гродзенскага аблвыканкама, абласны метадычны цэнтр народнай творчасці, Беларускае грамадска-культурнае таварыства ў Беластоку і Саюз палякаў на Беларусі.

**Лілія НАВІЦКАЯ**

МІНШЧЫНА...

## Паэты наведалі Маладзечна

Паэты Віктар Шніп і Людміла Рублеўская 15 лістапада наведалі Маладзечна. Яны сустрэліся з чытачамі ў сярэдняй школе N 1 імя Янкі Купалы. Аналагічная сустрэча адбылася і ў час пасяджэння літаратурна-краязнаўчага клуба "Жывіца" Маладзечанскай раённай бібліятэкі.

## "Усёй сям'ёй у бібліятэку"

У Барысаўскай раённай бібліятэцы прайшоў конкурс чытацкіх сем'яў "Усёй сям'ёй у бібліятэку". Перамагла сям'я Гаранскіх з вёскі Навасёлкі. У падарунак ёй былі ўручаны кнігі.

**Наш кар.**

# Каб зразумелі Боскую навуку...

## НАЦЫЯНАЛЬНАЕ АДРАДЖЭННЕ І ХРЫСЦІЯНСКАЯ МАРАЛЬ. ПА МАТЭРЫЯЛАХ ГАЗЕТЫ "БЕЛАРУС" (1913—1915)

Ульяна ШАСТАВЕЦ

НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ідэя — ідэалагема, якая носіць пераважна сацыяльна-палітычны, а не маральны характар. Маральнае ж заўжды большае, чым нацыянальнае. Таму нацыянальная ідэя ў любой краіне патрабуе маральнай карэкціроўкі. Гэта добра разумелі беларускія адраджэнцы першай паловы XX стагоддзя. Можа, таму, што тагачаснае грамадства было больш хрысціянізаваным, чым сучаснае. Паводле хрысціянскага светапогляду менавіта мараль вызначае прагрэс чалавецтва. Фабіян Абрантовіч, каталіцкі дзеяч беларускага адраджэння, пісаў, што маральныя якасці людзей, як вызначальны паказчык духоўнага фактару, валодаюць статусам катэгорыі зместу. Сацыяльна-эканамічныя і палітычныя перамены, адзначаў ён, адносяцца да катэгорыі формы, якой вызначаць эвалюцыю грамадства нельга.

Сінтэз ідэі нацыянальнага адраджэння і хрысціянскай маралі добра прачытваецца ў матэрыялах рэлігійна-асветніцкай, грамадска-палітычнай і літаратурнай газеты **"Беларус"**. Выдавалася яна беларусамі-каталікамі з 13(26)01.1913 г. да 30.07.(12.08)1915 г. у Вільні. Друкавалася на беларускай мове лацінкай. Рэдактарамі-выдаўцамі былі А. Бычкоўскі, з N 5 1914 г. — Б. Пачопка. У падрыхтоўцы выданняў да друку ўдзельнічалі таксама Ядвігін Ш. (А. Лявіцкі) і Я. Пазняк.

Галоўны накірунак газеты — нацыянальна-адраджэнскі. У аснову ж ідэі нацыянальнага адраджэння пакладзены канструктыўны прынцып хрысціянскага ўдасканалення кожнай асобы. Найбольш поўна адраджэнская праграма прадстаўлена ў артыкуле галоўнага рэдактара Б. Пачопкі "Якое мае быць нашае адраджэнне". "Каб нам адрадзіцца, — піша аўтар, — трэба, галоўным чынам, добра зразумець Боскую навуку Хрыста і ўвесці гэтую навуку ў кожную праяву нашага жыцця, грамадскага і прыватнага, каб у кожнай нашай справе, у кожным слове і нават у думках павадыром было Боскае прыказанне: "Любі Бога больш за ўсё, а бліжняга — як самога сябе". Усякае іншае адраджэнне, — адзначае рэдактар, — збудаванае на якім іншым фундаменце, не на праве Божым абапёртае — гэта будзе будыніна, збудаваная на пяску, які вецер разнясе і вада размые". Далей Б. Пачопка канстатуе, што адраджэнне патрабуе ў першую чаргу неабходнасці самаспазнання, самаўсведамлення чалавекам сваёй высокай годнасці, барацьбы з заганнымі якасцямі чалавечай прыроды, фарміравання духоўна дасканалай асобы, а за гэтым — усведамлення вартасці сваіх нацыянальных адметнасцей, павагі да іншых нацый, культурнага і гаспадарчага развіцця шляхам сістэматычнай і ціхай працы, а не шляхам сацыяльных канфліктаў і пераваротаў.

У адпаведнасці з праграмай газеты ў матэрыялах рэлігійнай тэматыкі дамінуе праблематыка чалавека, непарыўна звязаная з сацыяльнымі і этычнымі пытаннямі.

У мэтах хрысціянскага адраджэння душы чалавека, фарміравання духоўна дасканалай асобы газетаю апублікаваны своеасаблівы духоўны дапаможнік — цыкл рэдакцыйных артыкулаў, у якіх раскрываецца сутнасць хрысціянскіх цнотаў (станоўчых рысаў характару і псіхалагічных асаблівасцей чалавека) і іх апазіцый, а таксама ўказваюцца шляхі іх набыцця.

Адпаведна тэкстам, найбольшая каштоўнасць чалавечай псіхікі — гэта міласць (**любоў**). Устанаўліваецца прыярытэт любові над усімі іншымі станоўчымі рысамі і якасцямі чалавека. Міласць лічыцца душой і паненкай усіх цнотаў, бо робіць чалавека падобным да Бога, які з'яўляецца найчысцейшай міласцю і навышэйшай дасканаласцю. Любоў падзяляецца на дзве катэгорыі: любоў да Бога і любоў да людзей (у першую чаргу да Багародзіцы і ўсіх святых, затым да бацькоў і ўсякага бліжняга). Увогуле не толькі ў публікацыях пра цноты, але і ў многіх іншых матэрыялах газеты робіцца акцэнт на галоўнай евангельскай сентэнцыі: "Любі Бога больш за ўсё, а бліжняга — як самога сябе".

Побач з любоўю размешчана **мудрасць**. Мудрасці проціпастаўляецца розум, які падвяргаецца крытыцы ў кантэксце залежнасці ад эмпірычнага вопыту: чалавечы розум недасканалы, ён не здольны не то што пранікнуць у таямніцы Боскія, але і зразумець многія звычайныя з'явы. Адпаведна рэлігійнай думкі аўтара, нельга лічыць мудрым таго, хто верыць толькі свайму розуму. Мудрасць фальшывая непасрэдна звязваецца з пыхай. Праўдзівая мудрасць, на думку аўтара, з'яўляецца дарам Духа Святога, і здабыць яе можна толькі шляхам сапраўднай хрысціянізацыі душы. Мудрасць выцякае з любові, усе ж іншыя цноты бяруць пачатак у мудрасці і да яе накіроўваюцца, узбагачаныя вопытам. Іншыя цноты — гэта пакора, шляхетная амбіцыя (усведамленне чалавекам сваёй высокай годнасці), разважлівасць, сціпласць, стрыманасць, цярплівасць, працавітасць, цікавасць, мужнасць, руплівасць, вытрымка, паслухмянасць, шчырасць, лагоднасць, справядлівасць, спагадлівасць, велікадушнасць і літасць.

Публікацыя пачынаецца з дылемы пакора-пыха. **Пакора** азначаецца як "цнота, праз каторую мы разумеем сябе за слабае, уломнае стварэнне, што без пабочнай помачы і сваёй шчырай працы не можа ўтрымацца на вышыні людской годнасці". У гэтай дэфініцыі адлюстравана дагматычнае ўяўленне пра зыходную грахоўнасць чалавека, якая з'яўляецца вынікам падвойнасці чалавечай прыроды: чалавек складаецца з бессмяротнай душы і грэшнага цела; нізкія пажаданні цела пераважаюць над высокімі памкненнямі душы. Шлях набыцця пакоры ляжыць праз самаспазнанне, рэфлексію. Самаспазнанне абвяшчаецца падмуркам усіх цнотаў, прызнаецца крыніцаю дабра, неабходнай перадумовай маральнай адказнасці чалавека.

Супрацьлеглая пакоры рыса характару, пыха (гардыня) лічыцца духоўнай хваробай, асноўнай крыніцаю зла на зямлі. У пацверджанне сваіх думак аўтар прыводзіць евангельскую сентэнцыю: "Пакора прабівае неба, а гордым Бог супраціўляецца" і народную прымаўку: "Гарды варты пагарды".

Крайне дваякая тэалагічная ацэнка чалавека сцвярджае не толькі грахоўнасць чалавечай прыроды, але і высокую сутнасць чалавека як вобраза і падабенства Божага. Усведамленне чалавекам сваёй высокай годнасці павінна ляжаць у аснове рашучага адмежавання ад грахоўных памкненняў і ўчынкаў. Высокая, богападобная сутнасць чалавека вызначаецца здольнасцю адрозніваць дабро і зло. Гэтую здольнасць фарміруе **разважлівасць**. Аўтар адзначае, што ў працэсе разважлівасці павінны быць задзейнічаны памяць, аб'ектыўнасць, свой і людскі вопыт, вынаходлівасць, розум, празорлівасць, асцярожнасць. Набыць гэтую цноту можна толькі праз вопыт.

**Сціпласць** азначаецца як "цнота, каторая вучыць нас быць самімі сабой, ды сцеражэ ад усялякага падробліваня і ўдавання таго, чым не ёсць, вучыць трымаць у патрэбных межах усе справы і жаданні". Аўтар падзяляе сціпласць на тры разнавіднасці: сціпласць паводзін, знешняга выгляду і сціпласць жаданняў.

Ахоўным сродкам, які аберагае ад заганных звычак і праступкаў, што "родзяцца з гультайства", выступае цнота **працавітасці**. Любая праца, калі яна не супярэчыць евангельскім запаведзям, лічыцца годнай справай. Катэгарычна асуджаецца градацыя працы на простую, ці нізкую, і годную, шляхетную.

**Цікавасць** — форма праяўлення пазнавальнай патрэбнасці, якая дапамагае асобе ўсвядоміць мэты дзейнасці, садзейнічае арыенціроўцы, больш поўнаму і глыбокаму адлюстраванню рэчаіснасці — азначаецца як "цнота, якая пабуджае чалавека да пазнавання розных рэчаў, у асабліваці новых, з усіх бакоў, каб не памыліцца ў выдаванні аб іх суду". Зацікаўлены чалавек, на думку аўтара, валодае неабходнымі ў жыцці тэарэтычнымі ведамі і практычнымі навыкамі, "заўсёды парáдзіць сваёй бядзе і другіх паратуе". Празмерная цікавасць ператвараецца ў заганныя рысы (пляткарства і інш.). Асуджаецца бінарная апазіцыя цікавасці — нядбайнасць, якая наводзіць шматлікія беды на чалавека.

Гарт волі і энергіі для перамогі цяжкасцей, што сустракаюцца ў жыцці, дае **мужнасць**. Аўтар робіць акцэнт на неабходнасці дэтэрмінацыі мужнасці прынцыпам справядлівасці, які накладае на чалавека абавязак абараняць слабейшых.

**Справядлівасць**, этычны прынцып, які выяўляе ацэнку паводзін, грамадскіх з'яў, азначаецца як "цнота, якая наладжвае адносіны з людзьмі так, каб у іх не было ніякай крыўды, але каб кожнаму было аддадзена тое, што яму належыцца". Садзейнічае гэтай цноце барацьба з самалюбствам, вынікам якога заўжды бывае крыўда людзей, бо самалюбівы чалавек не ўлічвае інтарэсаў акаляючых, засяроджаны толькі на сваёй асобе, кіруецца ў справах толькі сваімі інтарэсамі, сваёй карыслівасцю, сваёй выгадай і нават не бачыць і не заўважае, як і калі крыўдзіць людзей. Затым рэкамендуецца не ставіць у ранг галоўных каштоўнасцей жыцця грошы, матэрыяльныя і сацыяльныя выгоды, сцерагчыся дробных крыўд, якія вядуць да большых.

Вышэйшай ступенню этычнага прынцыпу справядлівасці лічыцца **спагадлівасць** — здольнасць адчуваць бяду і няшчасце іншых як свае ўласныя ды па магчымасці аказваць людзям сваю дапамогу.

У якасці станоўчай рысы характару, што рэгулюе ўзаемаадносіны з людзьмі, вылучаецца і **альтруізм** — сістэма каштоўнасных арыентацый асобы, пры якой цэнтральным матывам і крытэрыем маральнай ацэнкі з'яўляюцца інтарэсы іншага чалавека ці сацыяльнай групы. У газеце альтруізм азначаецца як "цнота выразумеласць, якая вучыць усе людскія справы і ўчынкі тлумачыць на добры бок, а калі нават у чым выразна відаць благая воля, то і тады — выдаваць суд лагодны". У гэтым раздзеле закранаецца праблема пахаджання граху. Аўтар лічыць, што грэх у большасці выпадкаў выцякае не з благой волі, а з неразвагі. Гэтая думка блізкая сакратаўскай тэорыі этычнага рацыяналізму (яе дэфініцыя: веды ёсць дабро, амаральны ўчынак — вынік няведання ісціны). Зыходзячы з пазіцый хрысціянскага гуманізму, аўтар заяўляе, што трэба асуджаць грэх, але апраўдваць чалавека.

Каштоўнай рысай характару, якая можа тварыць цуды, лічыцца **лагоднасць**. Яна праяўляецца ў мяккіх незласлівых адносінах да людзей розных рангаў, у незласлівых адносінах да жывёл. Для набыцця гэтай цноты даюцца псіхалагічныя рэкамендацыі: усялякім чынам змагацца з гневам, злосцю (рэкамендуецца нават аўтагенная практыкаванні); не звяртаць увагі на дробныя прыкрасці, якія заўжды сустракаюцца ў жыцці.

З лагоднасцю шчыльна мяжуе **літасць**. Гэтая рыса характару азначаецца як "цнота, якая вучыць людзей шанаваць жыццё, здароўе і ўсякае дабро не толькі людзей, сабе роўных, або слабейшых, але таксама ўсялякай жывой істоты, нават расліны".

Дасканаласць чалавечай асобы фарміруе і такая рыса характару, як **велікадушнасць**. Яна праяўляецца ў бескарыслівай маральнай і матэрыяльнай дапамозе бліжняму, у здольнасці дараваць людзям крыўды. У якасці процілеглай рысы вызначаецца скупасць. Крытыкуючы апошнюю, аўтар прыводзіць думку Цыцэрона: "Скупасць — гэта варыяцыя, каторая робіць чалавека нялюдскім і несправядлівым, акрутным да іншых і да сябе самога". Але, ухваляючы велікадушнасць, аўтар засцерагае чытачоў ад неразумнай раскідлівасці.

**Шчырасць** зыходзіць з прынцыпаў праўдзівасці і сумленнасці. Але гэтая рыса характару, пры ўсёй сваёй вялікай значнасці, у стасунках з людзьмі патрабуе пільнага кантролю розуму, бо пры перавышэнні меры яна прыносіць чалавеку шмат непрыемнасцей. Аўтар навучае гаварыць праўду толькі там, дзе гэтага вымагае сумленне: абарона невінаватага, выкрыццё фальшу і іншыя важныя прычыны. Бязмежную ж шчырасць, на яго думку, трэба праяўляць толькі перад Богам. Апазіцыйная шчырасці рыса — махлярства — абвяшчаецца дыявальскай па паходжанні.

Для дасканаласці чалавеку патрэбна яшчэ **руплівасць** — цнота, якая схіляе да добрых учынкаў, калі для гэтага з'яўляецца магчымасць. Але, на думку аўтара, гэтая рыса характару прыносіць плён толькі пры наяўнасці іншых цнот, без іх яна ператвараецца ў легкадумнасць. Празмерная руплівасць уводзіць чалавека ў непатрэбныя клопаты.

Перамагаць цяжкасці і перашкоды, што сустракаюцца на шляху ўдасканалення, дапамагае **вытрыманасць**, рыса характару, якая вельмі цяжка даецца людзям. Гэтая цнота, як і ўсе іншыя, патрабуе залатой сярэдзіны, інакш пераходзіць ва ўпартасць альбо ў легкадумнасць.

Маральна-этычная скіраванасць характэрна і для многіх іншых матэрыялаў, змешчаных на старонках газеты "Беларус" (твораў Андрэя Зязюлі, Казіміра Сваяка, Пётры Простага, Змітрака Бядулі, Алеся Гаруна, Леапольда Родзевіча, Янкі Субача, Язэпа Шпэта, Францішка Красоўскага, Ігната Касцевіча і інш.). Неардынарнымі з'яўляюцца разважанні рэлігійнага дзеяча Д. Аніські над праблемаю пахаджання граху. На яго думку, прычына зла крыецца не толькі ў сапсаванасці натуры чалавека, але і ў цяжкіх абставінах жыцця (беднасці, розных нястачах). "Галодны чалавек, — канстатуе аўтар, — становіцца зверам, ён здатны на ўсякі праступак". У пацверджанне сваёй думкі Д. Аніська прыводзіць цытату з кніжкі О. Палау "Каталік у чыне": "Дабро душы вельмі часта залежыць ад дабра цела".

У матэрыялах газеты закранаецца і антрапалагічная праблема шчасця. Сапраўднае, праўдзівае і вечнае шчасце, на думку аднаго з аўтараў газеты, магчыма толькі ў небе, у Бога. Адноснае ж шчасце на гэтай зямлі могуць мець людзі, каторыя выконваюць Боскія запаведзі, найважнейшай з якіх з'яўляецца запаведзь любові. Крытэрыем вызначэння любові да бліжняга прызнаюцца рэальныя справы і ўчынкі, а не адзін толькі абстрактны настрой думак на эмацыянальна станоўчыя адносіны. Выкананне Боскіх запаведзяў прыносіць чалавеку спакой душы, абумоўлены чыстым сумленнем. "Не багацце, не слава і гонар, але толькі чыстае сумленне дае праўдзівае шчасце".

Паводле матэрыялаў газеты, маральны фактар, хрысціянскае адраджэнне душы чалавека з'яўляюцца асноваю нацыянальнай ідэі, першым галоўным крокам комплекснай арганічнай праграмы нацыянальнага адраджэння.

Разам з тым, нацыянальнае самаўсведамленне і нацыянальнае развіццё ў публіцыстычных матэрыялах "Беларуса" выступаюць дэтэрмінантаю дабра і шчасця народа і асобы. Д. Аніська ў артыкуле "Наша дарога" адзначае: "Пакуль беларус не пойме, хто ён такі, пакуль у яго сэрцы не загарыцца міласць да ўсяго беларускага, да тых пор ён будзе няшчасны, да тых пор усе намаганні яму дапамагчы будуць дарэмнымі".

Аўтары газеты адзначаюць таксама мірнасць ідэі нацыянальнага адраджэння, яе высокую духоўную культурна-хрысціянскую місію. Так, Б. Пачопка ў артыкуле "Чаму маем маліцца ў роднай мове" піша: "Мы адраджаемся не дзеля таго, каб ваяваць ці то з палякамі, ці з літвінамі, ці з расейцамі, ці яшчэ з кім іншым, але дзеля таго, каб стаць з гэтымі народамі як роўныя браты і разам з імі ісці да адзінай і супольнай усім народам мэты — праўдзівай культуры, здаровага поступу каралеўства Божага, аб каторым кожны дзень молімся ў пацерах".

Такім чынам, у матэрыялах газеты "Беларус" сцвярджаецца святасць, богаўгоднасць справы нацыянальнага адраджэння, заснаванага на высокіх хрысціянскіх ідэалах. Адпаведна, прыярытэтнае месца ў нацыянальнай ідэі адводзіцца этычнаму фактару. Такая канцэпцыя, характэрная для ўсіх хрысціянізаваных колаў грамадства, безумоўна, мае вялікае пазітыўнае значэнне. Бо страта хрысціянскіх каштоўнасных арыенціраў можа прывесці да краху любую асобу, любую арганізацыю і любую дзяржаву.



**ЧАСАПІС**

## "Смешкі-пацешкі"




**Чытач, які ўважліва сочыць за сучаснай беларускай літаратурай, ведае, што Уладзімір Дуктаў — аўтар дзвюх кніг "сур'ёзнай" прозы: першая "Дзякуй і даруй" у 1993 годзе выйшла ў "Бібліятэцы часопіса "Маладосць", другая — "Трэцяя асоба" — праз чатыры гады пасля першай пабачыла свет у выдавецтве "Мастацкая літаратура". Але У. Дуктаў выступае і ў галіне гумару і сатыры, аб чым засведчылі яго публікацыі ў перыёдыцы, а таксама на старонках "ЛіМа". І вось у Магілёве выйшаў яго зборнік мініяцюр і афарызмаў "Смешкі-пацешкі".**

**Паколькі кніга гумарыстычна-сатырычная, дык зроблена і адпаведнае да яе афармленне. Як засведчана ў пачатку, "вясёлы партрэт пісьменніка на першую старонку вокладкі намаляваў Фёдар Кісялёў". І ўсё ж ад кнігі чакаеш "весялосці" іншага кшталту. "Апратка" — гэта, канечне, добра, але ўсё ж больш цікавіць змест. А ён, трэба аддаць належнае У. Дуктаву, такі, што можна не толькі пасмяяцца, а і задумацца над шмат якімі выпадкамі з нашага жыцця, што ўмела падгледжаны аўтарам. У. Дуктаў не проста збіраецца пасмяшыць чытача, а піша з такім намерам, каб тое, аб чым расказвае, пакінула ў душы пэўны след і не адразу забылася. Гэта тычыцца і традыцыйных гумарыстычных дыялогаў, якія, праўда, аўтарам не выдзелены ў самастойны жанр. Мабыць, таму, што поруч з імі змешчаны і іншыя творы. Але ўрэшце — справа не ў жанры, а наколькі ўсё дасціпна. Гледзячы што прачытаць. Калі дыялог "Ціск", дык ён і сапраўды выклікае ўсмешку:**

**"— Дзе Іван Іванавіч?**

**— Крывяны ціск падымае.**

**— Як, п'е гарэлку ў час працы?!**

**— Не, дзяжурыць у пакоі прыёму наведвальнікаў".**

**Гісторыя ж у абразку "Мянушка" ўзята У. Дуктавым з паўсядзённага жыцця. З аднаго боку, яна сведчыць аб назіральнасці аўтара, яго ўменні падгледжваць цікавыя выпадкі, а з другога — аб тым, наколькі кемныя нашы людзі:**

**"У радзільным аддзяленні раённай бальніцы маладую вясковую жанчыну, якая нарадзіла надзвычай чарнявую малечу, запыталі:**

**— У вас, відаць, муж узбек?**

**— Не, ён беларус. Проста брунет.**

**Дробязь, здаецца. Але маладога бацьку цяпер клічуць у вёсцы "Узбек".**

**З самога жыцця — і гэты сюжэт ("Вайскоўцы"):**

**"Калона аўтамашын з вайскоўцамі, якія ўдзельнічаюць у вучэннях, спынілася на краю сяла. З пярэдняга аўтамабіля выскачыў маладзенькі афіцэр, пачаў расшпільваць планшэт.**

**— Карты дастае, — жартаўліва заўважаюць вяскоўцы, — зараз пра дарогу будзе пытацца".**

**Раздзелы ж "Простая мова", "Сёе-тое пра людзей", "Экалагічныя афарызмы", "Мімаходзь" — па сваёй лаканічнасці блізкія. Гэта сапраўды імгненні паўсядзённасці, што трапляюць пад вызначэнне "мімаходзь": "Не магу спаць у ложку ля сцэнкі, парчнаюся, бо сніцца, нібыта я пад плотам... — жаліцца былы п'яніца", "Нехай у вашым жыцці будзе столькі гора, колькі на маёй галаве валасоў, — жадае на вяселлі маладажонам лысы госць"...**

**Дае У. Дуктаў чытачам і шэраг гумарыстычных пажаданняў, што склалі невялічкую падборку "Парады". Толькі некалькі прыкладаў: "Абыходзьце трамвай спераду, а начальства — ззаду", "Гавары тое, што думаеш, але думай, што казаць", "Цішэй будзеш — даўжэй паездзіш на персанальнай легкавушцы" і іншыя.**

**А на завяршэнне кніжкі прапанаваны цікавыя выпадкі з жыцця хлопчыкаў і дзяўчынак, што сведчыць аб уменні дзетак усяму даваць свае ацэнкі, часам вельмі нечаканыя.**

**Юрась ВАЙСЁНАК**

ЮБІЛЕІ

# "Быў. Ёсць. Буду"

Уладзіміру Караткевічу 26 лістапада споўнілася б 70 гадоў.

Так, споўнілася б...

Бо вось ужо больш за 16 гадоў, як няма яго сярод нас. Памёр 25 ліпеня 1984 года.

Ёсць нешта сімвалічнае ў гэтых датах. Прыйшоў у свет, у жыццё ў пару снежназавейную, халодную, калі мала было святла, а больш цемрадзі. Пайшоў у росквіце лета, у сонцы, у кветках. Напярэдадні вялікіх сацыяльных змен, да выспявання якіх у немалой ступені спрычыніўся і ён сам. Пайшоў у славе і велічнай пашане. Слава і пашана засталіся, жывуць і сёння, ніколькі не губляючы сваёй сутнасці, а толькі паглыбляючы змест, узбуйняючы параметры.

Прыйшоў Караткевіч да шырокага чытача ў 1955 годзе — з нарысам "Вязынка" і вершам "Машэка". Працаваў у літаратуры — актыўна, апантана, безаглядна — да апошніх дзён, г. зн. амаль трыццаць гадоў. Вынік — 10 важкіх тамоў. Збор твораў у 8-і тамах (8 том у 2-х кнігах), выпушчаны ў 1987—1991 гадах, і "Творы" (па сутнасці, дадатковы том Збору твораў), пазначаныя 1996 годам выдання. Па-за межамі гэтага выдання засталіся пераклады і багатае ліставанне. Чакаюць свайго часу яны; чытач чакае іх.

І Збор твораў, і "Творы", як, дарэчы, і іншыя Караткевічавы кнігі, выпусціла выдавецтва "Мастацкая літаратура". Працаваў я тады ў выдавецтве галоўным рэдактарам. Магу засведчыць: над гэтым выданнем супрацоўнікі выдавецтва працавалі з асаблівай любоўю, з вялікай адказнасцю. Напэўна, найбольш дзеля гэтага выдання рабіў і зрабіў Рыгор Барадулін. І сёння, калі паглядзіш на тыя зборы твораў і выбраныя творы, што былі ў "Мастацкай літаратуры" выпушчаны за апошнія амаль дваццаць гадоў, то асаблівае хваляванне, асаблівы гонар выклікаюць тамы Караткевічавага Збору твораў.

А які наклад!.. 60 тысяч асобнікаў!

Большых накладаў беларуская кніга не знала.

Але самае важнае тое, што ні тамы Збору твораў, ні асобныя выданні ягоных твораў ніколі не залежваліся ў кнігарнях — ні пры жыцці, ні пасля смерці.

Шчаслівы пісьменніцкі лёс.

Вось ужо колькі гадоў, пачынаючы з першых публікацый, а калі больш строга, то з першага зборніка паэзіі "Матчына душа", выхад якога пазначаны 1958 годам, і да сённяшніх дзён, цікавасць да творчасці Караткевіча ніколькі не змяншаецца. Наадварот, усё больш расце і паглыбляецца. І не толькі з боку прафесійнай крытыкі ці літаратуразнаўства, а ў першую чаргу з боку самага шырокага чытача. Можна сказаць, што Караткевіча чытаюць усе. Узаемаадносіны пісьменніка (а больш дакладна сказаўшы, ягонай творчасці) з чытачом глыбока своеасаблівыя. Ні ў кога з пісьменнікаў няма такіх. Чытаюць яго не дзеля простай цікаўнасці, не для таго, каб час бавіць. Ім і з ім жывуць. Ягоная творчасць стала сапраўднай школай нацыянальна-патрыятычнага выхавання ўжо не для аднаго пакалення моладзі. Выхоўвае любоў да роднага краю, павагу і пашану да яго гісторыі, мацуе веру ў светлую будучыню народа. І тыя маладыя патрыёты-беларусы, хто сёння так самаахвярна змагаецца за незалежнасць Бацькаўшчыны (ды не нейкай там афіцыйнай віртуальнай, а роднай і любай Беларусі), яны несумненна прайшлі школу выхавання творчасцю Уладзіміра Караткевіча.

Чаму ж менавіта Караткевічу, ягонай творчасці была прадвызначана такая высокая місія ў нашым духоўным жыцці?

Выпадковасці тут, зразумела ж, няма і не магло быць. Ёсць найхутчэй высокая боская прадвызначанасць, наканаванасць лёсу — лёсу мастаковага і лёсу літаратуры.

У прадмове да Караткевічавага Збору твораў Васіль Быкаў піша: "Ён быў з пароды тых жыццялюбаў, якія ўсё радзей сустракаюцца ў нашым жыцці, тым больш нячаста ажыццяўляюцца ў мастацтве. Можна нават сказаць, што ён быў чалавек рэдкі, бо нават у сталыя гады шчасліва спалучаў у сабе чалавечую мудрасць з непасрэднасцю дзіцяці "любімага гадаванца прыроды".

Крыху далей: "У яго было вялікае чалавечае сэрца. Ягоная прыхільнасць да жыцця наогул не ведала межаў, і ў ёй заўсёды было месца для незвычайнага. Гэта незвычайнае ён умеў бачыць скрозь і ўсюды, падмячаць сваім вострым мастакоўскім вокам, узбагачаць у тыглі свайго ўяўлення".

І яшчэ адно сведчанне: "Ён быў вельмі шчодры ў жыцці і мудры ў літаратуры. Такім і застанецца назаўжды".

Вось гэтая дзіцячая даверлівасць і непасрэднасць, душэўная шчодрасць і шчырасць, вялікае чалавечае сэрца — прычына і аснова Караткевічавай абаяльнасці і прыцягальнасці. Ілюстрацыйны матэрыял, што ўключаны ў Збор твораў, шматлікія ўспаміны пра яго добра гавораць, як многа было ў Караткевіча сяброў толькі сярод людзей мастацтва і як яны яго любілі і шанавалі. Творы таксама захапляваюць шчырасцю, адкрытасцю, высокімі пачуццямі і праўдай гэтых пачуццяў.

У характары Караткевіча, у самой ягонай чалавечай натуры было штосьці ад людзей эпохі Рэнесанса — энцыклапедычнасць ведаў, няўтольная прага дзейнасці і падарожжаў, шырыня і рознабаковасць таленту, вышыня ягоных духоўных парыванняў. Ён нёс у сабе шмат святла і цяпла. Валодаў выключнай сілы інтуіцыяй.

Час, беларускі час (асабліва) меў вялікую патрэбу ў такіх людзях — каб не згінуць, не растварыцца ў бяспамяцтве. Караткевіч, гісторык і паэт, адчуў, усвядоміў гэтую патрэбу, усёй душою адгукнуўся на яе, аддаў усе свае сілы, увесь свой талент дзеля гэтай патрэбы.

Чытаем у Рыгора Барадуліна: "Загадка Уладзіміра Караткевіча — гэта загадка бурштыну. Колькі стагоддзяў жывіцы беларускага духу, беларускага клёку, беларускага слова трэба было згушчаць у самы цёплы і самы светлы камень, каб пасля сагрэць сталыя руіны нашай гісторыі, каб асвятліць ноч нашага паднявольнасці..."

Гісторыя выспеліла такі талент, падрыхтавала ягонае з'яўленне; час, нягледзячы на ўсе цяжкасці і перашкоды, даў магчымасць яму выявіцца, раскрыцца досыць поўна.

Гісторык і літаратар, паэт і празаік, драматург і публіцыст, крытык і перакладчык, раманіст і навеліст, эпік, рамантык, лірык — усё гэта ён, Караткевіч. Ва ўсіх гэтых відах літаратурнай дзейнасці, ва ўсіх жанрах у яго выдатныя дасягненні, пазначаныя пячаткай арыгінальнага таленту.



*У. Караткевіч, 1974г.*



*У. Караткевіч, яго жонка Валянціна і кансультант па беларускай літаратуры В. Шчадрына.*

І што б мы ні чыталі, твор якога б жанру ні аналізавалі, усюды, ва ўсім і за ўсім, выразна бачыцца, моцна адчуваецца высакародная асоба самога Караткевіча — жыццялюба, патрыёта, гуманіста, рамантыка.

Рамантычнасць арганічна ўласцівая таленту пісьменніка, можа, самая вызначальная асаблівасць. Караткевіч — якраз пісьменнік рамантычнага складу, рамантычнага ўспрымання свету. У яго яркія характары, выключныя жыццёвыя факты, рамантызаваныя абставіны, незвычайна завостраныя канфлікты, багатая вобразнасць, уменне ствараць высокую эмацыянальную напружанасць, метафарычнасць, узвышаныя эмацыянальныя словы, багатыя, яркія фарбы.

З прадмовы да кніг "Памяць зямлі беларускай":

"Якая яна, мая зямля? Гэта залатыя палі збажыны з сінімі вочкамі васількоў, светлыя ад бяроз гаі, што аглухлі ад птушынага звону, і пушчы, падобныя на гатычныя храмы, пушчы, дзе горда нясуць свае кароны алені. Гэта бясконцыя жылы рэк, у якіх плешчуцца бабры і рыба на захадзе сонца, і гэта амаль адзінаццаць тысяч азёр, чыстых, як усмешка дзіцяці".

А гэта з апавядання "Дрэва вечнасці":

"Палессе! Ты ўсё — бясконцая і вечная паэма. Кожная лясная рэчка твая — драмлівы рэчытатыў ліры. Кожнае тваё ўрочышча — урачысты хор магутных галасоў. Кожнае дрэва тваё — Песня Песняў. Кожная галіна пад ветрам — неўміручы радок".

Верш "Беларуская песня":

***"Дзе мой край? Там, дзе вечную песню***
***пяе Белавежа,***
***Там, дзе Нёман на захадзе***
***помніць варожую кроў,***
***Дзе на ўзвышах Навагрудскіх дрэмлюць***
***суровыя вежы***
***І вішнёвыя хаты глядзяцца***
***ў шырокі Дняпро.***
***Ты ляжыш там, дзе сіняя***
***Прыпяць ласкава віецца,***
***Дзе Сафія плыве над Дзвіною,***
***нібы карабель...***
***Там, дзе сэрца маё з першым крокам,***
***як молат, заб'ецца,***
***Калі б нават сляпым і глухім***
***я прыйшоў да цябе.***

І публіцыстыка, і проза, і паэзія — аднолькава чысты высокі тон. Крынічны, без фарсіравання. Ад душы. Высокі тон, высокі стыль народжаны высокімі пачуццямі: любоўю да прыроды, да роднага краю.

У Караткевіча нейкая нават як бы неўсвядомленая цяга да незвычайнага, прыгожага, яркага. Штосьці як бы ад дзіцячага захаплення навакольным светам. Нават у звычайным, штодзённым ён адкрывае паэзію, прыгажосць, узнёсла і дакладна перадае яе. Як заўважае сам пісьменнік, звычайную рэальнасць трэба бачыць "дзіўнай, выключнай". Ён яе такою і бачыў.

Цікавы ў гэтым сэнсе нарыс "Казкі янтарнай краіны". Ён з'яўляецца гімнам, паэмаю жыццю, звычайнаму, штодзённаму, народнай шчырасці, жыццярадаснасці, паэтычнасці простых латышоў. У вобразах тых людзей, з якімі пісьменніку даводзіцца сустракацца, у іхнім побыце, звычаях, узаемаадносінах з навакольным светам пісьменнік бачыць тую паяднанасць, злітнасць, натуральнасць, якія толькі і могуць быць вартыя паэзіі. Самабытнасць штодзённага жыцця латышоў, іхняя духоўная чысціня, моц і цэласнасць, душэўная ўраўнаважанасць сваёй глебай маюць натуральную адданасць традыцыям мінулага. А чым глыбей у зямлю пранікаюць карані дрэва, тым больш жыццё-

вых сокаў яно мае, тым больш яно магутнае і жыццяздольнае. Жыццё латышоў, убачанае, уведанае пісьменнікам, дазваляе яму глыбей, лепш убачыць, адчуць тое, што робіцца дома, умацоўвае ягонае разуменне значэння і ролі гісторыі, мінулага для беларускага народа. Вера ў моцную і высокую жыццяздольнасць гісторыі, разуменне яе як урока, школы, адчуванне яе як крыніцы, асновы таго, што існуе сёння, што будзе існаваць заўсёды, ёсць першааснова Караткевічавага рамантызму. Менавіта сама гісторыя (а яна найчасцей захоўвае факты і падзеі вялікія, выключныя, людзей незвычайных, гераічных), якая асабліва сугучная светаўспрыманню пісьменніка, па-дзіцячы непасрэднаму, абвострана чуйнаму, з'яўляецца той першакрыніцай, якая жывіла ягоны талент. І гісторыя рэальных фактаў і падзей, сапраўдных людзей, і гісторыя, увасобленая ў народных легендах і паданнях. Пра раман "Каласы пад сярпом тваім" Уладзімір Караткевіч так сказаў: "Пачынаўся ён з прыдняпроўскіх легенд і паданняў, з паэтычнай і вельмі прыгожай прыроды — ад Рагачова да Оршы".

Наогул жа ў Караткевіча-пісьменніка былі своеасаблівыя адносіны да гісторыі. Зразумець іх сутнасць можа дапамагчы эпізод з рамана "Нельга забыць" (першапачатковая назва "Леаніды не вернуцца да зямлі").

Разважаючы пра тое, "чаго часам бывае варты адзін чалавек", маці галоўнага героя Андрэя Грынкевіча расказала яму гісторыю пра чэшскага вучонага Ганку.

"...Быў час, калі чэхі пасля шматвяковага нямецкага панавання пачалі абуджацца. Яны захацелі мець сваю культуру, свае кнігі і музыку". За многія гады чужога панавання кнігі былі знішчаны. Тое рэдкае, што засталося, трэба было шукаць. А часу не было: "год ці два вырашалі пытанне аб тым, жыць народу ці не". І Ганка пачаў шукаць. Знайшоў адзін старажытны рукапіс, потым другі. Кнігі былі такой паэтычнай сілы, што Чэхія ажыла. "Паэты пачалі пісаць вершы, музыкі — ствараць сваю музыку, вучоныя — шукаць другія старажытныя кнігі". За справу ўзяліся ўсе. "І Чэхія стала Чэхіяй". А рукапісы былі падробкай, падробкай "геніяльнай па таленту і паэзіі". І ў дадзеным выпадку нельга гаварыць пра несумленнасць. "...Ганка проста ведаў, як цяжка — часта проста немагчыма — абудзіць народ, калі ён засне... І ён вельмі любіў". Так гаварыла маці Андрэю.

Самому Караткевічу ў дадзеным выпадку нічога не трэба было прыдумваць, ствараць (у тым сэнсе, як гэта зрабіў Ганка). Трэба было проста разгрэбсці друз, узняць з завалаў, ачысціць ад бруду і пылу тое, што было на самай справе ў нашай гісторыі, і падаць, паказаць ярка, выразна, запамінальна. Караткевіч паэтызуе, гераізуе мінулае, выхоўвае любоў і павагу да нацыянальных традыцый. Мэта дыктуе адбор матэрыялу. Мэта і матэрыял прадвызначаюць творчую манеру (а можа, сама творчая манера патрабуе такога матэрыялу) — у падыходзе да гістарычнага мінулага глыбокае мастацкае даследаванне спалучаецца з паэтызацыяй, у стылі пануючым з'яўляецца паэтычна-рамантычны пачатак.

Значнае месца ў творчасці пісьменніка займае вуснапаэтычная народная творчасць: паданні, легенды, песні. Часта яны вызначаюць не толькі ідэйную накіраванасць твора, але і яго мастацкую структуру, танальнасць.

Паэтычна ўзвышана і аналітычна абгрунтавана Караткевіч паказвае, як беларускі народ, прайшоўшы праз гады пакутаў і выпрабаванняў, перажыўшы столькі трагедый, не згубіў свайго нацыянальнага аблічча, застаўся народам вялікай душы і светлага розуму. Ва ўсіх творах пісьменніка выразна прасочваецца, паслядоўна сцвярджаецца ідэя адзінства народнага і нацыянальнага. Народ увасабляе ў сабе дух нацыі, яе сутнасць. Выразнікі нацыянальнай ідэі, абаронцы нацыянальных інтарэсаў, як правіла, абаронцы народа. Барацьбіты за народ з'яўляюцца і барацьбітамі за радзіму. Праз усю Караткевічаву творчасць выразна праходзіць ідэя пераемнасці пакаленняў, духоўнага адзінства народа. Пэўная падзея мінулага, пэўны перыяд падаецца не ізалявана, не адасоблена, а як этап нацыянальнай і сацыяльнай гісторыі.

"Сівая легенда", "Цыганскі кароль", "Дзікае паляванне караля Стаха", "Нельга забыць", "Каласы пад сярпом тваім", "Хрыстос прызямліўся ў Гародні", "Чорны замак Альшанскі", драмы, нарысы, апавяданні, балады насычаны дыханнем гісторыі, перадаюць яе гул, яе рух, разам з тым пранізаны пафасам сучаснасці, адчуваннем духоўных патрэб нашых дзён.

І ў творах, прысвечаных рэальным гістарычным падзеям ці то сапраўдным гістарычным асобам, і ў творах, заснаваных на народных легендах і паданнях, бачым грунтоўнае даследаванне жыцця, выдатную здольнасць перадаць мясцовы каларыт у шырокім разуменні гэтага слова, г. зн. узнавіць не толькі быт, але і свядомасць народа, ягоныя звычкі, паняцці, традыцыі і вераванні, характэрныя для пэўнага часу і пэўнай мясцовасці, здольнасць стварыць своеасаблівую эмацыянальную атмасферу, агульны тон твора, які якраз найбольш адпавядае гэтым падзеям, іх сэнсу і значэнню. Рамантычная ўзнёсласць і захапленне пануюць у "Сівой легендзе", задумлівасць і агульная трывожнасць напаўняюць "Дзікае паляванне караля Стаха", пралог рамана "Нельга забыць" насычаны трывожнай рамантыкай і абвостранасцю пачуццяў, раман "Хрыстос прызямліўся ў Гародні" ўражвае арганічным спалучэннем глыбокай філасафічнасці, стыхіі гумару, і амаль брэйгелеўскімі малюнкамі мінулага жыцця, "Чорны замак Альшанскі" — настроем трывогі і таямнічнасці, уласцівымі сапраўднаму дэтэктыву.

Караткевіч надзелены быў выключна багатай творчай фантазіяй, зайздросным веданнем гісторыі беларускага народа, больш таго, выдатнай здольнасцю мастацкага пранікнення ў дух і характар эпохі. Таму мастацкае ўзнаўленне быту, звычаяў духоўнага жыцця розных слаёў грамадства розных эпох заўсёды праўдзівае, надзвычай жывое, арганічнае. Ідэйнай канцэпцыі і паэтычна-рамантычнаму тону і фарбам твора адпавядае і асноўны герой, які пераважна раскрываецца ў сваёй духоўнай, маральнай сутнасці. Момант сацыяльны адчуваецца як аснова. Пісьменнік уважліва прасочвае развіццё характару, ягоны духоўны рост і разам з тым імкнецца яго шматбакова вывяць, падаць у гістарычных вытоках і гістарычнай абумоўленасці. Караткевічавы героі добра ўсведамляюць, хто яны, хто іхнія бацькі, чыёй зямлі яны дзеці. Такі Алесь Загорскі ("Каласы пад сярпом тваім"), такія Грынкевіч ("Нельга забыць"), Ракутовіч ("Сівая легенда"), Беларэцкі ("Дзікае паляванне караля Стаха"), Космін ("Чорны замак Альшанскі")... Іхняя грамадская філасофія, іхнія адносіны да жыцця і да сучаснасці маюць сваё карэнне ў гісторыі радзімы і народа. Яны па сваіх унутраных якасцях і магчымасцях асобы ў пэўнай ступені выключныя, незвычайныя. Праўда, здольнасць пісьменніка адчуваць характар, ягоны ўнутраны рух, разумець і бачыць гістарычную абумоўленасць характару, ягоную залежнасць ад умоў і абставін, здольнасць, рэалізаваная ў творы, надае герою рэалістычную пераканаўчасць, жыццёвую верагоднасць. Яны рэальныя ў той ступені, у якой выяўляюць грамадскія тэндэнцыі часу, гістарычны сэнс эпохі. Адначасова яны ў пэўным сэнсе і ідэальныя. Пісьменнік імкнецца ў іх і праз іх выразіць, увасобіць не толькі тое, што было, што несла ў сабе эпоха, але і што магло быць, што павінна было быць нават тое, што хацелася б, каб было. Яму добра ўдаецца, па сутнасці, у кожным творы, у вобразе галоўнага героя зліць асабістую выдуманую біяграфію і гістарычны змест і сэнс часу.

Барацьба дабра і зла ў іх розным сацыяльным і маральна-этычным выяўленні праходзіць праз усе творы пісьменніка — выключна вострая, непрымірымая барацьба высокай, прыгожай чалавечнасці з сіламі прыгнёту, рэакцыі, цемрашальства, чалавечай чэрствасці. Часта гэта сутыкненне героя з умовамі. Але Караткевічаў герой не адзіночка — ён адзін з многіх, ён увасабляе лепшыя якасці народа, у ім гэтыя якасці выяўлены ў сканцэнтраванай і завостранай рамантычнай форме. І абставіны, умовы — гэта не абставіны і ўмовы наогул, яны ўвасабляюць гістарычна і сацыяльна канкрэтныя сілы зла і разбурэння. Пакуль існуюць антаганістычныя класы, розныя сацыяльныя сістэмы, войны, знішчэнне, няроўнасць паміж людзьмі, не будзе спакойна на зямлі высокай чалавечнасці, не будзе месца шчасцю паміж людзьмі: "леаніды не вернуцца да зямлі", гінуць "каласы пад сярпом тваім", скача па зямлі "дзікае паляванне караля Стаха".

Увогуле ж творчасць Уладзіміра Караткевіча, народжаная болем за родны край, пакутамі за яго гісторыю, народжаная ў крытычныя для беларушчыны гады, і ў наш час гучыць надзённа, і ў нашыя дні выклікае сардэчны боль, вярэдзіць сумленне, мацуе веру.

Сваё эсэ "Наш Караткевіч", напісанае праз год пасля смерці пісьменніка, Янка Брыль закончыў наступнымі словамі: "Беларусь даўно чакала такога пісьменніка.

І радасна, што ён прыйшоў.

І горка, балюча, што ён не змог, не паспеў разгарнуцца яшчэ больш глыбока і шчодра".

Прайшлі гады. Творчасць вытрымала выпрабаванне часам. І сёння ўпэўнена можна сцвярджаць, паўтараючы прарочыя словы самога Караткевіча: "Быў. Ёсць. Буду".

**Серафім АНДРАЮК**

**Фота Ул. КРУКА**

# Рыцар сонечнай стыхіі

## "І ЎСТАЎ З НЯБЁС ГЕРОЯЎ СТРОЙ..."

Самы канец 70-х гадоў. 1979-ты.

Заходжу да Рыгора Васільевіча Шкрабы, у "Полымя": "Хацелася б напісаць пра Караткевіча". "Ужо ёсць дамоўленасць з Адамам Мальдзісам". Што тут скажаш? І — раптам увечары званок ад Шкрабы: "Давайце Караткевіча". Мабыць, як то здараецца (ці здаралася) у перыядычных выданнях, не было нічога ў нумар. "Два тыдні хопіць?"

Два тыдні... Уладзіміра Караткевіча можна даследаваць гады і пісаць пра яго — гады, можна — з лёту, перачытаўшы, перагартаўшы чытанае, пазначанае, падкрэсленае. Магчымы ўвогуле розныя падыходы.

Што неаспрэчна — эфект яго прысутнасці ў літаратуры, у культуровым асяроддзі, у жыцці (нават калі асабістых стасункаў з ім не было) — адметны, непаўторны, вызначальны. Тады, у 79-м, ужо цалкам было выяўлена тое, што два наступныя дзесяцігоддзі пацвердзілі, ператварылі ў неаспрэчнае — Уладзімір Караткевіч *адчуваў, прадчуваў, шмат у чым прадвызначаў духоўную сітуацыю*. Сваёй творчасцю спрабаваў адказаць на пытанні — як суаднесці той феномен, што носіць назву "агульначалавечая культура" з нацыянальным кантэкстам, з культуровым антуражам індывіда — у яго выяўленні, што пазначаны як "нацыянальны характар". Як вызначыцца ў каардынатах, дзе сышліся б сучасная рэчаіснасць і вопыт мінулага, эмпірыка фактаў і падзей з мройнай вабласцю легенд. Якую сістэму пісьма абраць — каб гэта была і школа духа, і жывая "повязь вякоў", і складаны ўзор драматычных супадзенняў і супрацьдзеянняў, і сутыкненне звычаёвага быцця і надсветавых сфер, гістарычная рэальнасць і непаўторны свет мастацкай рэальнасці.

Паэт, празаік, эсэіст, драматург, сцэнарыст, публіцыст, крытык — Уладзімір Караткевіч пачынаў як паэт. І ў паэзіі, па сутнасці, скандэнсавана вызначыў свае творчыя арыенціры, асноўныя канцэпцыі светабачання, свой будучы мастацкі свет.

Народ, нацыя, Айчына, родная мова — для многіх краін пытанні не тое каб рытарычныя, але такія, што атрымалі шматвекавое светапогляднае, мастацкае, палітычнае пацверджанні. Для беларусаў і дагэтуль — праблемы вострыя, актуальныя, найважнейшыя, так бы мовіць, адкрытыя. Тыя, хто побач з Уладзімірам Караткевічам вызначалі літаратурны працэс, давалі сваю мастацкую і свядомасную інтэпрэтацыю гэтым паняццям, нароўні з шматлікімі іншымі.



*Р. Барадулін, У. Караткевіч, Н. Гілевіч, Е. Лось, Б. Спрынчак, В. Быкаў, У. Нядзведзкі, 1959 г.*

Ужо былі пачуты і ўспрыняты чалавецтвам голас Васіля Быкава з яго апасродкавана-філасофскім асэнсаваннем дабра і зла, маральнасці і справядлівасці, — не проста ў асноўным на матэрыяле мінулай вайны, але з тым свядомасным кодам, які прачытваўся і разгадваўся ў кантэксце трагічных падзей і перспектыў канца другога тысячагоддзя, дзе крызісная самасвядомасць і экзістэнцыялізм існавалі побач з хрысціянскім адраджэннем. Ужо існавала на правах твораў жывога класіка лірычна-філасофская проза Янкі Брыля, вызначалася як непаўторная пісьменніцкая індывідуальнасць Алена Васілевіч, з яе мастацкім сплавам думкі, лірызму, гумару і іроніі, улоўліваў кожны новы павеў рэчаіснасці ў яе арганізацыйна-вытворчым і побытавым выяўленні Іван Шамякін, выходзячы на неверагодныя тыражы. Зусім яшчэ толькі (у 1976 годзе) адышоў з жыцця Іван Мележ, ускалыхнуўшы літаратурнае і нелітаратурнае асяроддзе сваімі творамі, найперш палескай дылогіяй, дзе яго эпічны талент шчасліва спалучыўся з лірычным бачаннем.

Называю тут і далей толькі празаікаў — таму што шматжанравы пісьменнік Уладзімір Караткевіч найбольш вызначыўся ўсё ж сваёй непадробнай прозай.

Калі мець на ўвазе літаратурных равеснікаў і тых, хто быў паблізу, дык за невялікімі выключэннямі яны "прапрацоўвалі" — глыбока, таленавіта, запамінальна — вясковую і ваенную тэматыку. Жорсткі псіхааналіз і сітуацыйны драматызм раманаў Вячаслава Адамчыка; непадробная пластыка пісьма Анатоля Кудраўца, з яго маральнымі праблемамі і мяккай іроніяй; высокае майстэрства Івана Пташнікава; найтанчэйшая, чэхаўская нюансіроўка размаітых твораў Алеся Жука, што ніколі не быў пачаткоўцам, адразу — сталы празаік; маштабная, эпічная хада Івана Чыгрынава, якому не чужы быў і жанр апавядання... Адметны шлях Міхася Стральцова — празаіка, паэта, эсэіста, крытыка, што трымаўся толькі і выключна еўрапейскіх, сусветных арыенціраў.

Усе — майстры.

Сярод іх, а неяк сам па сабе — Уладзімір Караткевіч. У пару, калі беларуская мова амаль адышла са школ, калі міграцыя з вёскі ў горад усё пашыралася, і губляўся той, вясковы чытач. Новы гараджанін, рабочы, чалавек сферы абслугоўвання імнуўся да "невясковай культуры". Інтэлігенцыя — таксама, тая, што прыйшла "з хат" — спасцігала розныя культуровыя каштоўнасці, з аднаго боку, з другога — адыходзіла ад каранёў, у шырокім і вузкім сэнсах. З'явіліся новыя пакаленні: рознага сацыяльнага статуса, аднак з той зацікаўленасцю, якую абудзілі наступствы "адлігі" — у шырокім культуровым кантэксце. Кнігі, кіно, выяўленчае мастацтва, перыёдыка. Распаўсюджвалася літаратура андэграўнда. На фотаплёнцы, а пазней на ксераксах, распаўсюджваліся забароненыя выданні — беларускія таксама. Былі ўсё ж вернутыя, хаця не ўсе, многія імёны: Максім Гарэцкі, Андрэй Мрый, Лукаш Калюга... І іх творы...

Вытворчыя раманы чыталі ўжо, мабыць, толькі выдавецкія рэдактары і літаратуразнаўцы, сучасны герой з'яўляўся, як пазначалі крытыкі, найбольш амбівалентным.

Пераважалі прынятыя з канца 50—60-х гадоў прыцішаныя, інтанацыі, паўтоны, мяккія ці жорсткія, але з адчуваннем абавязковага даверу да чытача і разумення, без кантрастаў.

І Уладзімір Караткевіч уварваўся — адначасова як рыцар, трувэр, трубадур, герольд. Са сваімі старасвецкімі — ярасцю і захапленнем, нянавісцю і неўтаймоўнай, вялікай любоўю, з вялікім каханнем, з бескампраміснымі ўяўленнямі пра дабро, справядлівасць. Ён вывеў сваіх герояў. Якая амбівалентнасць? Рыцары духа, ваяры, высакародныя, чыстыя. "І ўстаў з нябёс герояў строй..." Яго словы. І толькі так — з нябёс.

Гэта былі людзі з далёкіх вякоў і з сённяшняга дня, але паяднаныя яны былі вось тымі самымі, толькі што пералічанымі якасцямі. І — што было неацэнна важна: яны былі беларусы. Не французскія шэвалье, не нямецкія фюрсты ці бароны, не ангельскія лендлорды. А сённяшні герой быў падобны да ідэальнага ўвасаблення тых, хто чытаў Уладзіміра Караткевіча. Гэты герой прагнуў прыгод, высокіх ідэй, насычанага зместам існавання.

Жанры? Тэмы? Калі ласка. Гістарычны раман, гістарыясафічны раман, гістарычныя аповесці і апавяданні, прыгодніцкія аповесці. Гісторыі кахання. Лірычныя прыпавесці. Філасофска-лірычныя і гістарычна-літаратурныя эсэ.

(Працяг на стар. 14—15)

ПРОЗА

Таіса СУПРАНОВІЧ

# КАМЕНЬ У НЫ́РЦЫ

АПАВЯДАННЕ



Паўлоўскі даўно не быў у адпачынку. Гадоў, можа, з пяць-шэсць. Не, нават болей. Як стаў дырэктарам прадпрыемства, з таго часу і не быў. Адпачываць ніяк не выпадала. Кінуць-рынуць усё і паехаць на курорт — душа выбаліць ад турбот і хвалявання за работу. Пайсці ў адпачынак і правесці яго дома, на дачы — амаль бесперапынна ціўкае ў кішэні радыётэлефон. А тут неяк раптам узяў і даў сабе вольную. Не нашмат, хаця б на тыдзень. Трэба было адысці ад спраў, сабрацца з думкамі, аглянуцца назад і тое прааналізаваць. Такое рашэнне не было запланаваным. Проста пару дзён назад ледзь не памёр — ва ўсякім разе самому Паўлоўскаму так здалося.

Вяртаўся з Мінска, а на двары спякота — не вытрываць. Едзе і бачыць у мястэчку, пры дарозе, стаіць бочка з хлебным квасам. І так яму раптам захацелася гэтага, менавіта з бочкі, квасу, так захацелася, што не сцярпець. Такога не піў, мусіць, з часоў свайго студэнцтва. А квас быў тады шыпучы, пеністы, пахнуў збажыной... Сказаў вадзіцелю, каб супыніў машыну, падышоў да бочкі і купіў вялікі куфаль. Не выпіў і паловы. Такога мярзотнага пойла не даводзілася спрабаваць. Ужо калі пад'язджалі да горада, адчуў, што нудзіць. Але не надаў значэння. Дома ж стала сапраўды кепска. Пачало калаціць, усё паплыло перад вачыма. І жонка якраз паехала да дачкі ў абласны горад. Пазваніў галоўнаму ўрачу бальніцы. Што тут пачалося... Прыехалі ў белых халатах чалавек з пяць. І кропельніцу прывезлі, і лекаў самых эфектыўных. Аператыўна і хутка вывелі з крыві гэтую атруту. Толькі сінякі на згібах рук нагадвалі пра тое: у яго былі глыбока схаваныя вены. Ну што ж — дар за дар. Ён для бальніцы зрабіў нямала. Што дзе трэба набыць — галоўны ўрач з паклонам перш за ўсё да яго: "Дапамажыце". Канечне, прадпрыемства цяпер багатае, не тое, што ў былы час. Не той былы час, а апошнія гады і збіраўся прааналізаваць цяпер Паўлоўскі. За гэтыя апошнія гады шмат было зроблена, дасягнута вялікім стараннем і намаганнямі, але нешта было і страчана. Можа, нават большае і галоўнейшае для яго асабіста.

Сям'я Паўлоўскіх прыехала ў гэты раённы цэнтр сем гадоў назад. Паўлоўскага ўгаварылі ўзначаліць прадпрыемства, якое тады ледзь дыхала на ладан. Да таго жылі яны ў абласным горадзе, мелі невялікую двухпакаёвую кватэру. Паўлоўскі тады працаваў тэхнолагам на аднатыпным прадпрыемстве, жонка выкладала ў школе матэматыку. Прапанова ехаць у райцэнтр і падымаць з калень прадпрыемства спачатку нават рассмяшыла. А пасля задумаліся — там даюць трохпакаёвую кватэру, зарплату нашмат большую. Перспектывы службовага росту тут не прадбачвалася. Вырашылі рызыкнуць. Божа, як спачатку было цяжка. Першыя гады палова зарплаты ішла на наладжванне сувязей. Усё, як і спрадвеку, вырашалася праз вадкі долар. Цяпер прадпрыемства на нагах, можна было б расслабіцца, супакоіцца. Але больш пачало непакоіць іншае: штосьці разладзілася ў адносінах паміж ім, Паўлоўскім, і жонкай.

Жонку сваю, Заіру Шафагатаўну, ён прывёз з Арменіі. Служыў там і выпадкова пазнаёміўся са студэнткай педінстытута. Яна была на два гады старэйшай за Паўлоўскага. Калі ён даслужваў у арміі, Заіра заканчвала інстытут. Бацькі яе, выкладчыкі таго ж інстытута, дыхнуць баяліся на адзіную дачку. Але пярэчыць не сталі, калі тая сабралася замуж за маладзенькага салдата-беларуса. Божа, якая мука была ў вачах і бацькі і маці, калі стаялі на пероне, праводзячы іх, маладых, ужо законам павенчаных мужа і жонку. А яны былі шчаслівыя. Ён любіў яе. Любіў без памяці гэтую экзатычную кветку Усходу з капой медных валасоў і фарфоравым тварам з вялікімі і сумнымі вачыма. Вочы яе былі падобныя на вочы іхняй каровы Роскі, але пра гэта ён ёй ніколі не казаў, баючыся пакрыўдзіць: яго Шафагатаўна была натурай тонкаю, часта спявала па-армянску. Песні бралі за душу, у такія хвіліны ён шкадаваў яе да слёз. За што? Ні за што. Проста за тонкую душу, за тое, што нервы ў яе былі агаленыя і тонкія-тонкія. За жонку сваю ён нямала перапакутаваў. Самае галоўнае і цяжкае, што яе не прыняла маці. Яе адзіны сын, без бацькі народжаны, разумны, здольны да навукі, яе гонар — і што вытварыў!.. Сама не надта відная, прапрацаваўшы на ферме ўсё жыццё, амаль у сорак нарадзіўшы такога вартага на ўсю вёску хлопца, маці хацела для яго сваю тутэйшую нявесту. А тут сын, маючы ў вёсцы дзяўчыну, якая яго чакала, як чакалі яго з арміі і будучыя сваты, прывозіць гэтую "няпрускую, худую, як стрэльба, з вялікімі, чорнымі, як галавешкі, вачыма". Неўзлюбіла яна Заіру. Нават і пасля, калі прыязджалі, збіраючы іх у дарогу, звярталася толькі да сына: "Вось тут кладу тое, вось тут гэта, гэта з'еш хутчэй, каб не сапсавалася". І матка родны чалавек, і жонка родны — круціся, каб дагадзіць абедзвюм. Гэта калі гасцявалі на радзіме Паўлоўскага. А калі былі дома, круціцца не трэба было: у сям'і быў лад, давер і спакой сямейнага шчасця. Спакой і лад пачаў знікаць у апошнія гады. І ва ўсім, на думку Паўлоўскага, была вінавата Заіра. Яна хацела, каб усё між імі было, як і раней. А так не выпадала. Ён не мог быць больш хатнім мужам. Дырэктар буйнога прадпрыемства горада, хочаш-не хочаш, павінен быў лічыцца з іншымі кіраўнікамі. А тыя ў асноўным даўно згубілі звычку лічыцца з жонкамі. Часта ездзілі ў саўну, выязджалі на шашлыкі, на юшку, і не заўсёды гэтыя кампаніі былі чыста мужчынскімі. Дадому Паўлоўскі, бывае, вяртаўся за поўнач. Заіра нічога не казала, глядзела з дакорам і ішла мераць свой крывяны ціск. Як яго стала раздражняць гэтае сыканне грушы танометра! Бачачы, што Заіра п'е лекі, раздражняўся яшчэ больш. Пачуццё перад жонкай не давала душэўнага спакою — ад гэтага дыскамфорту рабіўся раздражнёны і злы. "Ды будзь ты, як усе людзі! Вунь, другія жонкі як жонкі, а табе, бач, трэба інакш!" — часам кідаў ёй у злосці. Чым далей, тым болей у іх адносінах нешта пачало сапраўды мяняцца. Заіра раптам узялася за рэпетытарства. Яна была някепскі педагог і добры матэматык, і гэта заўважылі. Пачала больш зарабляць, стала ўвесь час занятая. Ні з таго ні з сяго ўзяла ды пайшла ў аўташколу вучыцца вадзіць машыну. Гэтыя перамены ў жонцы Паўлоўскага не ўзрадавалі — наадварот, ён аж разгубіўся ад такой хуткай эмансіпацыі. Раней, бывае, з прыхаваным гонарам казаў: "У мяне жонка ўсходняга, ад паранджы, выхавання". Цяпер пра тое "ўсходняе выхаванне" не згадвалася. Гэта і стала непакоіць Паўлоўскага. Ды яшчэ адзін прыкры казус...

З тыдзень таму былі яны кампаніяй "на шашлыках". Адзначалі чыйсьці дзень нараджэння. Вечар быў цёплы, вада ў возеры — як падагрэтая. Палезлі ўсе купацца. У кампаніі былі жанчыны, яны таксама не адсталі ад іншых. Трохі пад градусам сталі дурэць, пырскацца вадой, падныраць адзін пад аднаго. Тут Паўлоўскі скурай адчуў на сабе нейчы позірк. Божа — на беразе стаяла Заіра, — а ён ёй раніцай зманіў, што едзе па справах у Мінск і вернецца позна. Заіра павярнулася і пайшла да вучэбнай машыны — гэта, аказваецца, інструктар прыязджаў па свайго сына і яго дружбакоў, якія таксама адпачывалі на возеры. Гэта ён, бачыце, сумяшчаў сваю працу (вучыў Заіру ездзіць) і адначасова выкарыстоўваў машыну ў сваіх мэтах! Вясёласць і бесклапотнасць пакінулі Паўлоўскага. Паехаў дадому. Але Заіра не стала высвятляць адносіны, не было чуваць і сыкання грушы танометра. Праз некалькі дзён сабралася і паехала да дачкі пагасцяваць. Не надоўга — на дзень ці два. Дачка была замужам, хоць і вучылася яшчэ ва універсітэце. Жылі яны з мужам, таксама студэнтам, у той двухпакаёвай кватэры, што пакінулі Паўлоўскія ў абласным цэнтры.

Якраз у адсутнасць Заіры Паўлоўскі і атруціўся хлебным квасам. Усё гэта разам узятае і падштурхнула яго ўзяць які тыдзень адпачынку. Заіра прыехала, але не стала, як заўжды, не змаўкаючы, размаўляць-дзяліцца ўражаннямі. Нешта рабіла ў кватэры, штосьці чытала. Паўлоўскі ляжаў на канапе і бяздумна пераключаў каналы тэлевізара. І тут раптам, раніцай, вырашыў з'ездзіць да сябе на радзіму ў Магілёўскую вобласць да цёткі. Цётка была ўжо старая, пад восемдзесят, жыла з дачкой і зяцем. Цвёрда вырашыў з'ездзіць — калі яшчэ збярэцца, ды і магілу маткі таксама трэба праведаць. Хутка сабраўся ў дарогу, сказаў жонцы, куды едзе — тая толькі павяла брывом. Раней, канечне б, паехала б з ім, цяпер, бач, інакш. Пагасцяваў у цёткі дзень і пацягнула дамоў. Ехаў у сваёй прыгожай, нядаўна купленай "БМВ" і пад музыку думаў, прыкідваў і так, і сяк. Канечне, нельга быць у такія гады так прывязаным адзін да аднаго. Раней тое было ў радасць. Цяпер ён незалежны, разняволены, трохі ўжо разбэшчаны сваёй пасадай і сваёй уладай чалавек. Цяпер ён не прыкідвае разам з жонкай, як дажыць да зарплаты. Цяпер ён едзе на сваёй раскошнай, камфортнай машыне, едзе ў баваўняных шортах і сарочцы, якія каштуюць шалёныя грошы, але пра якія цётка сказала: "А Божа, мой Божа! Ды чаму ж ты, маючы грошы, не апранешся па-людску. У нас у вёсцы апошні п'яніца такога не надзене". Цяпер Паўлоўскі ўпэўнены ў сабе, а вось у сваіх пачуццях і адносінах з жонкай неяк разгубіўся. Хацелася самому быць вольным, але, як аказалася, таксама хацелася, каб і ў сям'і ўсё цякло па-ранейшаму. А то, бачыце, вучыцца вадзіць машыну пайшла. Ды каб хоць была да таго здольная, а то адразу і не скажа, дзе права, дзе лева. Адзін арыенцір — заручальны пярсцёнак на правай руцэ. Ён нядаўна кінуў ёй са злосцю, што за руль "БМВ" яна не сядзе, ён не дапусціць. Адказала, што будзе ездзіць на "капейцы". Сапраўды, у іхнім гаражы стаяў старэнькі "жыгуль", куплены ім бацькамі Заіры. На тое Паўлоўскі толькі з сарказмам засмяяўся, упікнуўшы, што яна не заробіць, а ён не дасць грошай на рамонт ды на бензін. А яшчэ ж трэба здаць экзамены, каб атрымаць правы. А гэта не так лёгка. Яшчэ будзе прасіць, каб слова закінуў за яе, такога, бач, "шофера".

Ехаў Паўлоўскі, перадумваў усё гэта, толькі вачыма заўважаючы, як многа стала прыдарожных прадаўцоў, якія прапаноўвалі грыбы, ягады, а нехта вунь велізарнага шчупака трымаў на выцягнутай руцэ. Захацелася піць, і ён прыпыніўся каля прыдарожнай крамкі. Зайшоў у крамку і праз акно ўбачыў, як нейкі падшыванец зрываў з яго "БМВ" эмблему. Выбег на двор, але хлопец, з ужо сарванай эмблемай, марсянуў праз плот. Паўлоўскі не супыніўся — гэтак жа жвава ўзяў бар'ер і дагнаў-такі злодзея. Той, бачачы, што не выкруціцца, кінуў эмблему Паўлоўскаму пад ногі і даў лататы. Паўлоўскі не стаў яго даганяць. Сеў у машыну і рушыў далей у дарогу. Праехаў не болей за два кіламетры, як адчуў, што нешта стала бы замінаць у левым баку. Гэтая няёмкасць хутка стала болем, які нарастаў, мацнеў, агнём аддаваў у пах. Ён супыніў машыну, паспрабаваў сагнуцца, разагнуцца, думаючы, што гэта мышачны спазм. Боль не праходзіў, наадварот — мацнеў. Паўлоўскі змусіў сябе сесці за руль і паволі паехаў. Бачыў дарогу як у тумане, пот засцілаў вочы. Глянуў у люстэрка і не пазнаў сябе: умомант зжаўцелы твар, сінія бяскроўныя вусны. Раптам, аж немагчыма было стрываць, захацелася мачыцца. Даў па тармазах, на карачкахываліўся з машыны, падпоўз да дрэва і, упёршыся лобам у хваіну, паспрабаваў тое зрабіць. Мача не адыходзіла. З натугай, аж, здаецца, вылазілі з арбіт вочы, выціснуў з сябе пару кропель. Але што гэта? Кроплі тыя былі кроўю. Паўлоўскаму стала зразумела — з ныркі, яго левай ныркі відаць, сарваўся камень і вось цяпер яго трэба "раджаць". Гэтай вясной галоўны інжынер іх завода цэлы тыдзень "раджаў" ныркавы камень. Божа, няўжо і ён цярпеў такі боль, як цяпер Паўлоўскі! А яны яшчэ скалілі зубы, жартавалі, смяяліся з таго "раджання"... Паўлоўскі амаль не памятаў, як даехаў да нейкага мястэчка, не, хутчэй вялікай вёскі, як убачыў пры дарозе знак, дзе знаходзіцца бальніца. Лічы, не памятаў, як яго там прымусілі пераапрануцца, здаць у гардэроб свой доларавы баваўняны касцюм і апрануць таксама баваўняныя, у шырокую палоску, як у вязняў з карцін Савіцкага, латаныя і выцвілыя піжаму і порткі. Прыйшоў доктар, малады, хударлявы, як пеўнік-жаўтароцік. Памацаў, пастукаў, абгледзеў выбаленае цела Паўлоўскага і раптам узбудзіўся, аж узрадаваўся, убачыўшы сінякі на згібах рук хворага: "Ну, вот и пришли, вот и доплыли. Конечно, может быть камешек. Но главное — ломка. Отсюда и плясать будем. По-моему, это теперь у вас главное". Устаў і пайшоў. Паўлоўскі вырашыў заплаціць. Адразу, каб хоць што пачыналі рабіць. Абапіраючыся аб сцяну, згінаючыся ў тры пагібелі, пайшоў у гардэроб, дзе застаўся касцюм. Ледзь дайшоў. У нагрудной кішэньцы сарочкі не аказалася ні долараў, ні беларускіх грошай. Спытаў, дзе ж тая, што прымала яго і выдавала бальнічнае адзенне. Пайшла дамоў і будзе толькі праз суткі. А хай! Нават калі б і была — што дакажаш... Адрачона, зноў-такі паўз сцяну, дабраўся да палаты. Лёг, а не ляжалася. Злез з ложка і папоўз (устаць на ногі не змог) да сястрынскага паста. Боль, дзікі, нечалавечы боль вырываў бок. І раптам учуў голас доктара. Доктар гаварыў па тэлефоне: "Провернемся и будем при деньгах. Я маячок сброшу, кто будет знать, что это 03. С утра поедем по дальним деревням, возьмем эти лисички по миллиону и сбросим по два. Живые деньги. Какие больные! Страда. Два старика на социальных койках и бомжа-наркота случайно занесло на явно краденой машине. Якобы камень из почки, а главное — ломает парня. Ломка, говорю, вены все исколоты. Да еще юмор — директором завода назвался. Да ладно, что тут говорить. Сдам в понедельник в район — пусть там разбираются. Ну, до завтра!"

У Паўлоўскага і ад болю, і ад пачутага ўсё змяшалася ў галаве. Паўзком, прыпадаючы шчакой да падлогі, вярнуўся да свайго ложка. Вярнуўся паміраць, іншага не прадбачылася. Зайшла медсястра і холадна сказала, што зараз яму палягчэе, зрабіла ўкол. Не палягчэла. Боль нават павялічваўся. Ізноў папоўз на пост, папрасіў сястру, каб укалола наркотык, ведаў, што толькі ім можна супыніць гэты жах. Сястра здзекліва адказала, што вось як выйдзе з бальніцы, будзе вольны калоць сам сабе наркотыкі. Каб мог, здаецца б, задушыў голымі рукамі гэтую гаспадыню "зязюлінага гнязда". А сілы не было нават нешта даказваць. Слабым голасам папрасіў, каб дазволіла пазваніць. Не дазволіла: усё платнае. Ізноў ледзь-ледзь дапяў да свайго ложка і зваліўся без сіл, хочучы ўжо толькі аднаго — смерці-збавіцелькі. Праз нейкі час падышла старэнькая санітарка: "Ідзіце, борздзенька звaніце. Васільеўна (медсястра) пайшла дадому!".

Заіра як чакала, падняла трубку адразу. "Я паміраю. Камень у нырцы. Бальніцу знайдзі па карце (сказаў назву вёскі). Вазьмі Івана ці Валодзю (яго вадзіцелі) і зараз жа выязджайце на "Волзе"".

Усё. Цяпер трэба чакаць. Пакуль сцямнее, павінны прыехаць, яго вадзіцелі ўмеюць выціснуць максімальную хуткасць з яго новай службовай машыны.

Да ложка дапамагла дайсці гэтая добрая санітарка. Ды параіла як магла болей піць вады. Ды яшчэ прынесла чысты слоік і параіла мачыцца толькі туды: "А можа, дай Бог, выйдзе той камень, то адразу ўбачыце". Пацягнуўся час. Ад болю Паўлоўскі проста станавіўся на вушы. Выпіў, лічы, цэлы графін вады, а мача не адыходзіла. Ужо за акном быў добры прыцемак. Паўлоўскі раптам напрогся, як сапраўды пры родах, памачыўся — і во цуд! Боль як рукой зняло — ён быў здаровы. Аж не верылася. Машынальна пагледзеў на святло слоік — там нешта прасвечвалася. Зліў мачу — на дне слоіка ляжаў каменьчык з грэчневае зярнятка. Падумалася, як гэтая касмічная пылінка можа зламаць чалавека, растаптаць яго!..

Раптам пачуў шум, рэзкі голас медсястры. Выйшаў і ўбачыў, як, адбіваючыся ад медсястры, мчыць па калідоры яго жонка Заіра Шафагатаўна. Паўлоўскі кінуўся насустрач. Спытаў, з кім прыехала. Адказала, спалохана моргаючы вачыма, што сама, "на капейцы", не знайшла нікога з вадзіцеляў дома. Паўлоўскі спачатку не паверыў. Потым з сілай прыціснуў жонку да сябе, схаваў твар у яе валасах. Слёзы пырснулі з яго вачэй...





## "Тартак"

Адна з самых вядомых аповесцяў знакамітага празаіка, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР імя Якуба Коласа Івана Пташнікава дала назву яго кнізе "Тартак", што выйшла ў серыі "Беларуская проза XX стагоддзя", якую выдавецтва "Мастацкая літаратура" выпускае паралельна з другой — "Беларуская паэзія XX стагоддзя". З'яўленне тома выбранай прозы І. Пташнікава не можа не радаваць: на сённяшні дзень Іван Мікалаевіч — адзін з тых нямногіх, дзякуючы каму годна развіваецца нацыянальнае прыгожае пісьменства і беларуская літаратура парaнейшаму ўтрымлівае тую высокую мастакоўскую планку, наблізіцца да




якой могуць толькі самыя высокаразвітыя літаратуры свету. І, канечне ж, многія з іх палічаць за гонар мець творы, падобныя аповесці "Тартак". Дарэчы, "Тартак" даўно высока ацэнены. У прыватнасці, Вера Палтаран у свой час пісала: "Ні ў адным са сваіх ранейшых твораў Пташнікаў-мастак не адчуваў сябе так шырока і вольна, ні ў адным з іх яму не ўдавалася так глыбока зазірнуць у чалавечую душу, як у аповесці "Тартак". Але што ў "Тартаку" новае — дык гэта выяўленне самых глыбінных сувязей чалавека з жыццём, яго кроўнай зрошчанасці са светам, у якім ён жыве. Адсюль бярэ пачатак гуманістычная думка пісьменніка пра смерць як найвялікшую дысгармонію свету". Словы В. Палтаран адкрываюць кнігу. Не лішне ў сувязі з гэтым прыгадаць, што сваю рэцэнзію на "Тартак" Варлен Бечык назваў "Збалелая памяць". У "Тартаку", як чытач ведае, асноўныя падзеі звязаны з тым, што перажываюць сямёра сялян, якія вязуць з Дальвы (яе фашысты неўзабаве знішчаць) у нямецкую камендатуру збожжа. Сама ж Дальва знаходзілася непадалёку ад роднага пташнікаўскага Задроздзя. І. Пташнікаў, як ні ў адным папярэднім творы, падрабязны ва ўзнаўленні ўсяго, што тычыцца жыцця вяскоўцаў. Але такая падрабязнасць не толькі бытавога характару. Яна мае і духоўны характар. Дакладна адчуў гэта чэшскі даследчык беларускай літаратуры і перакладчык яе Вацлаў Жыдліцкі, які зазначыў, што пісьменнік "больш за ўсе імкнецца стварыць уражанні прысутнасці ў канкрэтным адрэзку асабістага жыцця". "Тартак" — аповесць-набат і аповесць-рэквіем адначасова. Яна "па трагічным напаўненні, па стылі — адзін з самых бязлітасна драматычных твораў у беларускай літаратуры", як сказала наконт гэтага Таццяна Шамякіна.

У кнізе, што папоўніла серыю "Беларуская проза XX стагоддзя" шырока прадстаўлены і І. Пташнікаў-апавядальнік: змешчана чатырнаццаць твораў "малога жанру". Сярод іх і раннія — "Алешка", "Алені", "Бежанка", герой якіх — падлетак, што, па словах Серафіма Андраюка, "жыве ў паэтычнай гармоніі з навакольным светам, адкрыта, даверліва ўбірае яго ў сябе". Надзіва паэтычнае і разам з тым драматычнае па змесце апавяданне "Алені". Дабро і зло, паэзія і драма... Паняцці вечныя як у жыцці, так і ў літаратуры. Але толькі сапраўдны мастак здатны на сваё раскрыццё іх. Гэта І. Пташнікаву і ўдалося. А ўвогуле І. Пташнікаў — з тых празаікаў, якія ў "малым жанры" могуць сказаць так шмат і гэтак глыбока спасцігнуць жыццё, чаго не ўдаецца некаторым нават прызнаным раманістам. Гэта пацвердзілі яго новыя творы, пачынаючы з апавядання "Львы", якое было адразу перакладзена на некалькі моў. Дзякуючы "Львам", а таксама такім творам гэтага жанру, як "Ірга каласістая", "Французанкі", "Тры пуды жыта", жанр апавядання пад пяром І. Пташнікава набыў новае "дыханне". А апошнім у кнізе стаіць апавяданне "Пагоня", якое смела можна назваць лепшым беларускім апавяданнем XX стагоддзя. А калі прыняць пад увагу той факт, што гэты жанр у нашай літаратуры ў мінулым стагоддзі толькі пачаў фарміравацца, дык "Пагоня" — і ўвогуле лепшае беларускае апавяданне на сённяшні дзень.

Юрась ВАЙСЁНАК

ПАЭЗІЯ

### Юрась СВІРКА



## Зоркі, як зерне, і зерне, як зоркі

*Пад верасень зоркі у небе зярністыя,*
*І зерня, як зорак, насеяна чыстага;*

*На поле туман пацягнуўся разорамі,*
*І, як зярнятамі, неба раззорана;*

*Як водсветы зорак,*
*зярняты пшанічныя.*
*І зоркі, і зерне, як намагнічаны;*

*Яны і зямныя, і высіста-дальнія,*
*Як параднёныя і прыцягальныя;*

*Падаюць, сыплюцца зоркі паднебныя*
*Так, як і зерне —*
*у сховішчы хлебныя;*

*На золку зніжаецца неба, мільгаючы, —*
*Зярністыя зоркі зямлі адсыпаючы.*

●

*Сам, а не ў думках, зноўку дома я.*
*Прырастаю да сваёй зямлі.*
*Дажджы ліпнёвыя мядовыя*
*Без спеху шумнага прайшлі.*

*І я такой парой захоплены,*
*Нібыта ўсе збыліся сны...*
*Зямля (вясёлкаю абхоплена)*
*Здалася кошыкам грыбным,*
*Лазовым, што пляцецца ўхваткаю*
*(Яго выгладжвае рука).*
*З гадамі мне ўявіўся шапкаю*
*Падвераснага баравіка.*

*Край запаведны, незмядзведжаны!*
*Перашаптаўся дождж з зямлёй,*
*І пацягнула з лесу свежаю,*
*Салодкай парнасцю грыбной.*

*У сне, сцяжынкамі праходзячы,*
*Пабачу пузанкоў лясных.*
*А заўтра (хай даруюць родзічы):*
*Я — госць палянак баравых.*

## Суботнім адвячоркам

*Туман кудлаціцца ў лажку.*
*Пакуль што не імглісты.*
*І венік просіцца ў руку,*
*І скрутачак бялізны.*

*Бярозавы салодкі пах.*
*Блакіт — празрыста-ясны.*
*І ажно свеціцца вярба,*
*Як запрашае ў лазню.*

*Мурожны пахкі беражок,*
*І булькат раўчуковы.*
*Пружыніць цёсаны масток,*
*Што ў поручнях вярбовых.*

*Туман дымком па-над лажком*
*Паўзе аднекуль з бору...*
*Вядзе у лазню беражком*
*Суботні адвячорак.*

●

*Хоць невядома, як жылі*
*За тым царом Гарохам,*
*Ды ўсё ж гароху з той зямлі*
*Хапала ўсім патроху;*

*Кроў не лілася ў барацьбе,*
*Не падалі ў знямозе.*
*Сусед не адчуваў сябе*
*Гарохам пры дарозе;*

*У незапамятных вяках*
*І вернасці хапала.*
*Тады ў гарохавых вянках*
*Патрэбы не ўзнікала;*

*А мы ў сваіх гадах жывем,*
*Ды не ўздыхнем з палёгкай,*
*Бо ад гарохавых праблем*
*Не адышлі далёка...*

*У Бога шмат крутых дарог,*
*Ці з намі ён не ў згодзе:*
*Да нас з паданняў цар Гарох*
*Чамусьці не сыходзіць.*

## Штрыхі да партрэта Піліпа Пестрака

*Ён быў і жыў сапраўдным беларусам,*
*Непаднявольным, хоць зазнаў турмы.*
*Ніколі не зграджаўся ён з прымусам*
*І з ёй, вернападданасцю, як мы...*

*Хрысціў тых, хто няволіў, —*
*"фашыстоўцы".*
*І ненавідзеў словы: здраднік, кат.*
*Не грэбаваў, што тоўпілася ў стопцы.*
*Не адлучаў сябе ад барыкад.*

*І ў прозвішчы не паддаваўся ўціску,*
*Яно не падмянялася ніяк.*
*Піліп ПЕСТРАК —*
*Пісалася на кніжках,*
*Хаця і вымаўлялася ПЯСТРАК.*

●

*Мы да жыцця з мальбою і праклёнамі:*
*Не пакідай нас, грэшных, у бядзе.*
*Але яно, няўмольнае, хвалёнае,*
*Усіх жывых да скону давядзе.*

*А скон — спакойна, без ныцця і мукі*
*(Няважна, як і колькі пражылі) —*
*Бярэ святых і грэшных на парукі,*
*Каб перадаць на вечны схоў зямлі.*

## Запеўка гекзаметра

*Качар, як флагман,*
*эскадру вядзе за сабою,*
*Супраць цячэння вядзе*
*несудназоднай ракі.*
*Вёселцы-лапкі, здаецца, лёгка,*
*зусім непрыкметна*
*Нашае эры стагоддзі адпіхваюць,*
*гоняць назад.*
*Качар як прывід сіне-зялёны*
*глядзіцца здалёку,*
*Як судна, якое калісьці апошнім сплыло*
*Свіслацкім шляхам ад прыстані*
*Менск з варагаў у грэкі...*

## Зайздрасць

*Я пазайздросціў ім, двaім,*
*І спачуваў немаладым.*
*Прызнанне прагучала міла:*
*"Я пражыла жыццё з другім,*
*Ды аднаго цябе... любіла".*

*А ён маўчаў, немалады:*
*Не спадзяваўся на спатканне...*
*Сышліся ўсё ж, хоць праз гады,*
*І Сарамлівасць, і Каханне.*

## Язмін

Вернай памяці

*Мы яго пасадзілі калісьці вясною.*
*Ты хацела,*
*Каб рос ён на дачы і цвіў...*
*Шэсць гадоў я вякую*
*У растанні з табою,*
*Ды ні разу цябе*
*Нежывой не прысніў.*

*Беласнежна цвіце ён.*
*Духмяняцца гронкі.*
*Быццам ты ў белым плацці*
*Стаіш пад акном.*
*А язмін, як і лёс, —*
*І надзейны, і ломкі,*
*Як і ўсё, што пазначана*
*Вечным жыццём.*

*Прачынаюся раненька*
*Чэрвеньскім летам.*
*Яшчэ сонейка спіць.*
*Ад язміну відно.*
*Быццам ты,*
*Як жывая душа з таго свету,*
*Разбудзіла мяне,*
*Зазірнуўшы крадком у акно.*

## Мамчынай мамы цяпло

*Бабуля сіротку трымае за ручку,*
*Такога адзінства даўно не было:*
*Рукой і паглядам сагрэла унучку —*
*Жаданае матчынай мамы цяпло.*

## На пачатку дня

*Неба над Радзімай — сіне-сіняе.*
*Мірны чэрвень на пачатку дня.*
*След ад рэактыўнага, як лінія —*
*Ўзлётаў і падзенняў вышыня.*

### Алена БАБУРЭВІЧ



## Успаміны

*Сонца. Грэецца восень.*
*На краі зямлі*
*Спыніліся мае ўспаміны,*
*Якія выплакалі вочы,*
*Якія выстагнала сэрца*
*І прынесла змрочнае бяссонне.*

*На самым краі зямлі*
*Стаяць мае ўспаміны.*
*...Не ўтрымаліся,*
*Сарваліся*
*І ляцяць у бяздонную вечнасць,*
*У невядомы Сусвет.*
*Забываю...*
*Забываю...*

●

*Вы па вачах*
*Не развучыліся чытаць?*
*Два сумныя люстэркі насупраць.*
*Там — я —*
*Трывожная постаць.*
*Тут — Вы —*
*У палоне сумнення.*
*Усё наваколле — дэкарацыі*
*Нікім не пастаўленай п'есы.*
*Горад — стары музыка —*
*Штосьці грае на скрыпцы.*
*Паслухайце мяне.*
*Я так даўно хацела*
*З Вамі*
*памаўчаць.*

●

*На ранні голуб пастукаў у вокны*
*І сказаў,*
*Што трэба дзякаваць Богу*
*За саграваючы прамень сонца,*
*За выпадкова знойдзенае зерне,*
*За магутнасць нястомных крылаў,*
*За магчымасць лятаць у аблоках...*
*Я ўдзячна Богу*
*За тое,*
*Што магу прысвячаць*
*Табе*
*вершы.*

## Каханне

*Дзесьці там... Там... Далей,*
*Дзе ў руж не бывае шыпоў,*
*Дзе полымя не апякае пальцы,*
*Дзе дрэвы не губляюць лістоту,*
*А матылі-аднадзёнкі жывуць вечна,*
*Нарадзілася наша каханне*
*І прыйшло сюды,*
*Дзе ўсё зусім наадварот.*

## Ініцыятыва Міхася Казлоўскага

**Жыве і працуе ў Маладзечне Міхась Казлоўскі. Радавы грамадзянін. Але па сваім грамадскім стане роўня тым маладзечанскім беларусам, якіх сёння ведае ўся краіна, — паэту Пятру Бітэлю, краязнаўцу Генадзю Каханоўскаму, гісторыку Міколу Ермаловічу. А робіць М. Казлоўскі, здавалася б, непрыкметную справу: выдае паштоўкі. Усе яны — з выявамі беларускіх асветнікаў, пісьменнікаў, грамадскіх і палітычных дзеячаў. Апошняя з паштовак — партрэт беларускага краязнаўцы Міколы Каспяровіча (1900—1937), стогадовы юбілей якога адзначалі сёлета многія грамадскія і дзяржаўныя ўстановы краіны.**

**Шкада, праўда, што паштоўка з выявай М. Каспяровіча засталася выданнем камерным. А можна было б яе пад юбілей распаўсюджваць і ў Мінску, і ў Блоні, і ў Чырвоным Кастрычніку, дзе праходзілі каспяровічаўскія ўрачыстасці. Ды тут, натуральна, правіна не М. Казлоўскага.**

**Каспяровічаўская паштоўка (можа, не толькі для выдаўца М. Казлоўскага гэтая падказка, а і для іншых рупліўцаў і нават дзяржаўных выдаўцоў) — чым не пачатак серыі паштовак, прысвечаных беларускім краязнаўцам? У гэтым шэрагу маглі б быць выявы Аляксандра Ельскага, Мікалая Улашчыка, Аляксея Сапунова ды і бліжэйшых да нас па часе Генадзя Каханоўскага, Міхася Ткачова, Рыгора Родчанкі...**

**Алесь ГЛУШКА**

## "Японскія лялькі" ў Мінску

**У Мінску прайшла выстава японскай лялькі, прысвечаная Дням японскай культуры ў Беларусі. Яе можна было наведаць з 14 па 22 лістапада ў Доме дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі. Экспазіцыя была арганізавана Міністэрствам замежных спраў Японіі, пасольствам Японіі ў Беларусі і Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь. На выставе былі прадстаўлены лялькі, зробленыя з дрэва, гліны і тканіны. Дзякуючы выставе лялек можна было даведацца пра жыццё і традыцыі японскага народа.**

**Кацярына ІЎЛІЕВА**

## "Роднае слова", N 10

**Нумар адкрываецца артыкулам Т. Байковай "Выхаванне нацыянальнай свядомасці вучняў на прыкладзе празаічных твораў Уладзіміра Караткевіча". Публікуюцца артыкулы У. Казберука "Добрыя весці" ад Уладзіслава Сыракомлі", Л. Кісялёвай "Салодкі боль жыцця" ("Апавяданне без назвы" Я. Лёсіка), А. Данільчык "І рука твая, мне працягнутая..." (старонкі беларуска-італьянскіх літаратурных сувязяў), У. Скарынкіна "Мой Дантэ", заканчэнне артыкула Г. Крупкінай "Мастацкі космас Гётэўскага "Фауста" і яго перастварэнне па-беларуску". П. Міхайлаў ("Маміна крыло і ў мароз цёплае") асэнсоўвае назвы пасынка і падчарыцы ў беларускіх гаворках. "Спрэчныя пытанні лексічнай варыянтнасці фразеалагізмаў" у цэнтры ўвагі І. Хлусевіч. Працягваецца публікацыя даследавання Б. Плотнікава "Беларуская мова ў сістэме славянскіх умоў". Пад рубрыкай "У святле школьнай праграмы" прапануюцца развагі А. Бельскага пра творчасць П. Панчанкі "Каб... навек засталіся людзьмі", а рубрыка "Урок сёння і заўтра" папоўнілася матэрыялам В. Ляшук "Маральнае выхаванне шасцікласнікаў пры вывучэнні раздзела "Горкая прамудрасць" з аповесці М. Гарэцкага "Ціхая плынь". Як працяг гэтай гаворкі — артыкул К. Цімашковай "Псіхалагічнае даследаванне паводле аповесці Максіма Гарэцкага "Ціхая плынь". Р. Бабашка ("Цікавы і патрэбны падручнік") рэцэнзуе дапаможнік "Беларуская літаратура. XI клас", а М. Крыўко ("На паліцу школьніка, навучэнца і студэнта" ("Беларуска-рускі слоўнік для школьнікаў". В. Буланда ("І не знікаць паэтам вечна") падрыхтавала літаратурна-музычную кампазіцыю да 70-годдзя з дня нараджэння У. Караткевіча. Штрыхі да партрэта скульптара А. Шатэрніка напісала А. Багданава — "Я пайду па гары, каб бліжэй быць да Бога". У. Караткевіч і Орша — тэма артыкула Л. Радомскай "Тут стаў я сынам краіны...". Н. Бунцэвіч ("Спявайце дуэтам...") запрашае перагарнуць старонкі творчасці кампазітара Л. Захлеўнага.**

МУЗЫКА

# Спатканні паміж Сожам і чыгункай

***Плынь ракі — з аднаго боку. Сталёвыя рэйкі — з другога. У такім вось рэчышчы і пралягае-бяжыць-віруе жыццё Гомеля, якое ўжо не першы год акрылена рамантычным духам гітарнай музыкі.***

"Рэнесанс гітары", міжнародны фестываль, ладкуецца тут сёлета сёмы раз. Напачатку сілкаваўся выключна энтузіязмам, аргнізатарскім талентам і прадпрымальнасцю ініцыятыўных творчых людзей. Цяпер мае салідную афіцыйную падтрымку: Міністэрства культуры Беларусі, упраўлення культуры Гомельскага аблвыканкама, аддзела культуры гарвыканкама, Камітэта па справах моладзі аблвыканкама, Гомельскай абласной філармоніі.

Але ж не развілася б новая традыцыя ў музычным жыцці горада, калі б не асоба лідэра.

### ПРАДЗЮСЕР І МАСТАК...

...Ды яшчэ ў адной асобе: уяўляеце? Гітарысты — уяўляюць. Яны ведаюць, што Ігар Шошын не толькі "робіць фестываль", але і выступае там з уласнай музыкай.

Ён — гамяльчанін. Гітарай "захварэў", калі вучыўся ў 2-й музычнай школе, у цудоўнага педагога В. Кісялёва. Скончыў Мінскую музычную вучэльню па класе гітары. У Беларускім універсітэце культуры набыў спецыяльнасць дырыжора эстраднага аркестра. Выкладаў у Гомельскай музычнай вучэльні. Кіраваў гарадскім клубам гітарыстаў. Сам іграў у ансамблі з іншымі музыкантамі. Заняўся яшчэ і выдавецкай дзейнасцю, журналісткай.

Даўняя мара пра свой, гомельскі гітарны фестываль спраўдзілася ў 95-м, калі разам з аднадумцамі, сябрамі, сабраўшы сотню долараў, Ігар Шошын зрабіў свята для беларускіх гітарыстаў, якое з часам набыло гожае імя, папулярнасць і міжнародны розгалас.

Актыўны ўдзельнік замежных фестываляў, І. Шошын знаходзіць там неардынарных творчых людзей і запрашае іх у Гомель. Як прадзюсер "Рэнесанса гітары" ён зацікаўлены ў інфармацыйнай падтрымцы і таму з не меншым энтузіязмам займаецца выпускам аднайменнага альманаха. Дарэчы, галоўны рэдактар альманаха "Рэнесанс гітары" — журналіст і музыкант-аматар Віктар Кіеня — працуе на выдатным прафесійным узроўні. Можна сказаць, што ў Гомелі ствараецца унікальны для нашай краіны часопіс: нібыта для зусім пэўнага кола спецыялістаў, але і папулярны, і асветніцкі, і пазнавальны. Тут і хроніка фестывальнага жыцця, і творчыя партрэты гасцей, і дыскаграфія, і аналітычныя матэрыялы, і экскурс у гісторыю гітарнага мастацтва (у тым ліку — на землях беларускіх), і анонс праграмы чарговага фэсту, і ноты, ноты...

Нотнага матэрыялу айчынным выканаўцам усіх спецыяльнасцей, як вядома, бракуе. Так што І. Шошын ды В. Кіеня дапамагаюць братам-гітарыстам вырашыць рэпертуарную праблему, змяшчаючы ў альманаху немудрагелістыя ўласныя транскрыпцыі, творы масцітых калег...

Лічыцца, што гітарысты як ніхто іншы з музыкантаў пакутуюць ад "хваробы ўласнай творчасці". Фестывальная канцэрты ў гэтым пераконваюць. Ну, а І. Шошын сярод гітарыстаў-кампазітараў выглядае самавітым, бо мае і аўтарскія нотадрукі, нават зборнікі.

Калі надараецца асаблівы настрой, дык ён і да мастацкага слова звяртаецца, і карціны малюе...

### БЛІЗКАЯ СЯБРОЎКА І ЗМЕНЛІВАЯ НЕЗНАЁМКА...

...Ды яшчэ ў адным абліччы: уяўляеце? Толькі не ўяўляйце нейкую інфернальную жанчыну. Бо для музыканта — гэта яго гітара, самая родная і самая загадкавая, неспазнаная істота.

Розныя эпохі, стылі, жанры, рознае тэмбравае атачэнне — якою рознаю бывае гітара!

Вось яна з мандалінай, у маладым сямейным дуэце нашай "зоркі" Яна Скрыгана ды Кацярыны Пракопчык.

Вось яна са струнным аркестрам: на мінулым фестывалі адбылася, можна сказаць, сусветная прэм'ера першага сербскага Канцэрта для гітары, напісанага П. Стаджыкам яшчэ ў 1914 г., але страчанага на доўгі час і нарэшце знойдзенага югаслаўскім гітарыстам, кампазітарам, педагогам Урашам Дайчынавічам. (Шаноўны госць граў у суправаджэнні струннай групы Гомельскага сімфанічнага аркестра пад кіраўніцтвам В. Краўцова).



*Мікалай ІСТОМІН, Ігар РЭХІН*

Вось яна ў элітарнай кампаніі інтэрнацыянальнага камернага ансамбля: галандзец Хан Ёнкерс — гітара, швейцарац Бруна Маер — флейта, беларускія салісты з "Класік-Авангарда". Вось — толькі з флейтай: Ігар Шошын граў з гамяльчанінам Алегам Карташовым, нават уласную апрацоўку песні "Касіў Ясь канюшыну"...

А як па-рознаму гучаць гітарныя дуэты! На тым жа леташнім фестывалі можна было пачуць Андрэя Вайцяхоўскага з Андрэем Сільчанковым у яго танга з фламенка "Вячэрні Мінск". І віртуознага майстра Сяргея Анціпыну, саліста Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі, разам з Аляксандрам Цэрахавым. І зусім юных мінчукоў Таццяну Рыжкову ды Мікіту Максімчыка.

Гітара аднаго з вядучых беларускіх музыкантаў Яўгена Грыдзюшкі ў вытанчаным стылі неабарока твора А. Літвіноўскага ("Intavolatura"). Экзатычна-пачуццёвая гітара Мікалая Істоміна, маскоўскага саліста, які разам з Гомельскім сімфанічным аркестрам прадставіў "Гавайскі канцэрт" свайго земляка І. Рэхіна (кампазітар, дарэчы, і прадырыжыраваў сваёй фестывальнай прэм'ерай). Гітара з глыбокім і строгім "голасам" І. С. Баха — у Паўла Бельскага. У класічным абліччы музыкі А. Іванова-Крамскага, выкананай сталым артыстам і педагогам Вячаславам Тарлецкім...

Здаецца, збіваюся на пералік, а чытач гэтага ой не любіць! Зрэшты, ёсць і аматары пераліку. Зазвычай — з тых, каго датычыць прадмет гаворкі. Або з тых, каго проста цікавяць імёны ў мастацтве, і новыя, і знаёмыя. Для іх, цікаўных, прыгадаю Наталлю Ліпніцкую, навучэнку Яўгена Грыдзюшкі — перспектыўную, сур'ёзную і ўжо адзначаную конкурснымі лаўрамі. Паўла Шамшуру з авангардным праграмнымі п'есамі М. Кошкіна. Ігара Кузьміцкага, які перад вандроўкай у Гомель напісаў ціхую, кранальную п'есу "Уражаны любоўю", а таксама зрабіў пералажэнне папулярнага бахаўскага "Жарта".

Ну, і замежныя дуэты, якія пабывалі ў Гомелі летась і ў пазамінулым годзе. Віртуозная, суладная, артыстычная ігра Кшыштафа Пелеха ды Ярэмы Кліха выклікала ілюзію гучання адзінага інструмента: і ў музыцы Скарлаці, і ў "прыкольных" эксцэнтрычных мініяцюрах нашага сучасніка Даміконі. (Чаго вартыя толькі назвы: "Аргенцінскі кідальнік нажоў", "Іспанскія вершнікі на грэцкіх конях", "Брыгады пажарных на катку", "Мядзведзяня-ёга, які праходзіць праз шчыліну замка"!). А дзве прыгожыя, у эфектных канцэртных уборах, панны, якія граюць фламенка? Вітаючы іх — украінскіх музыкантаў Аксану Шаляжэнку (Кіеў) ды Амалію Крывенку (Харкаў), зала не шкадавала воплескаў...

### ХЛОПЧЫК З ВЯЛІЗНАЙ ГІТАРАЙ І ВЯЛІКІ СТВАРАЛЬНІК МАЛЕНЬКАЙ ЛЮТНІ...

...Ды яшчэ сёй-той, спрычынены да фестывальных размоў. А паколькі размова — рэч, схільная да несканчонасці, паспрабую карацей.

Маленькі хлопчык — Ігар Дзедусенка. Займаецца ў сектары педагагічнай практыкі Маладзечанскай музычнай вучэльні. Яго настаўнікам быў легендарны "тата Карла" — Карл Карлавіч Пагоцкі. Рыхтаваў Ігара, ужо лаўрэата конкурсу імя І. Жыновіча, да міжнароднага спаборніцтва ў Польшчы, спецыяльна для свайго выхаванца напісаў п'есу, але жыццё гэтага выдатнага педагога, аранжыроўшчыка, мастака раптоўна абарвалася...

Дзевяцігадовы Ігар справіўся з моцнай псіхалагічнай траўмай, падрыхтоўку да конкурсу прадоўжыў з дапамогай В. Жывалеўскага і Д. Асімовіча. Паехаў у польскі горад Элк і перамог там сярод больш чым 20-ці канкурсантаў ва ўзроставай катэгорыі да 13 гадоў. Ён аказаўся там самым юным лаўрэатам. А на "Рэнесансе гітары" — самым юным удзельнікам.

Тое, як гэты танклявы, "цененькі" хлапчук мусіў прыстасоўвацца да "важнога тулава" інструмента, немажліва было не заўважыць. Іграў выдатна! Яшчэ б гітару яму напалову меншую...

У размовах са спецыялістамі высветлілася, што дзіцячыя гітары (як і скрыпкі, і віяланчэлі) увогуле існуюць. Але тыя, што вырабляюцца на пецярбургскай фабрыцы, зусім непрыдатныя для прафесійных занят-



*Ян СКРЫГАН*



*Ігар ШОШЫН*



*Яўген ГРЫДЗЮШКА*

# Беларускі каляндар у еўрапейскім свеце

ЧАЛАВЕЦТВА ЎВАХОДЗІЦЬ у новае трэцяе тысячагоддзе. Дзве тысячы гадоў прайшло ад часу нараджэння Ісуса Хрыста — эпахальнай падзеі, ад якой вядзецца адлік гадоў, і 7508 — ад "стварэння свету".

У такія важныя пераломныя перыяды гісторыі народы "азіраюцца назад", падводзяць вынікі і задумваюцца пра будучае. Своеасаблівая мэта нашай працы — зрабіць некаторыя высновы адносна беларускай традыцыйнай культуры і, у прыватнасці, народнага календара, каляндарных звычаяў і абрадаў.

Цікавасць да каляндарных звычаяў і абрадаў, іх вывучэння з'явілася ў людзей даўно, хаця ў розныя перыяды гісторыі яна праяўлялася па-рознаму. Так, ужо першы гісторык са старажытнай Грэцыі Герадот, які пісаў пра неўраў, што жылі ў басейне Прыпяці 25 стагоддзяў таму назад, мудра заўважыў аб асаблівай прыхільнасці кожнага народа менавіта да сваіх звычаяў і нораваў, "што яго звычаі і лад жыцця нейкім чынам найлепшыя". Нас жа тут найбольш цікавіць беларускі аспект узнятай праблемы: месца і значэнне традыцыйнай спадчыны беларусаў у спробах рэканструкцыі календара славян, у вывучэнні каляндарных абрадаў і звычаяў, пазнанні некаторых пытанняў сусветнай культуры праз беларускую народную творчасць.

## СТАРАЖЫТНЫЯ КАЛЕНДАРЫ

Пытаннямі старажытнага календара, мерамі лічэння часу язычнікамі на тэрыторыі Беларусі спецыяльна не займаліся ні гісторыкі і археолагі, ні астраномы і астрафізікі, ні этнографы і фалькларысты. Маюцца толькі некаторыя эпізадычныя і спадарожныя даследаванні, прысвечаныя іншым праблемам, якія часткова закранаюць узнятую тэматыку. У нас наогул няма спецыяльных прац, прысвечаных беларускаму календару, такіх, як, напрыклад, у Расіі, што падрыхтаваны доктарам фізіка-матэматычных навук І. Клімішыным (1990), акадэмікам-археолагам Б. Рыбаковым (1981, 1988), фалькларыстамі-этнографамі А. Някрылавай (1996), У. Усавым (1997), і шэраг іншых. У нас, праўда, ёсць цудоўныя даследаванні беларускай каляндарнай абраднасці і паэзіі Г. Барташэвіч, Н. Гілевіча, А. Гурскага, А. Ліса, Л. Салавей і інш.

Гісторыя беларускага календара бярэ пачатак у глыбокай старажытнасці. Некаторыя археалагічныя знаходкі на этнічных беларускіх землях сведчаць аб наяўнасці ва ўсходніх славян своеасаблівых календароў, адлюстраваных на розных бытавых прадметах: гліняных гаршках, апрацаваных рагах, бранзалетах з біўня маманта, спецыяльных драўляных брусках і інш. Палеалітычная знаходка на стаянцы Мезін, што на Дзясне, каля Чарнігава, уяўляе месяцавы каляндар (10 месяцаў, каля 280 сутак) у выглядзе ўзораў на бранзалеце з прамых рысак на пяці пласцінках з біўня маманта. Другі чарнігаўскі каляндар X стагоддзя змешчаны на акоўцы рога тура. У ім гадавы цыкл прадстаўлены васьмю месяцамі. Існуе нямала іншых знаходак, пачынаючы з другога стагоддзя, у якіх вучоныя бачаць старажытныя календары.

Гэты пласт матэрыяльнай культуры не даследаваны беларускімі археолагамі. Не апісаны іншыя "рэчыўныя" календары, напрыклад, драўляныя брускі і дошчачкі, што, несумненна, існавалі ў нас, як і ў іншых славян. Усё гэта чакае свайго даследчыка.

## РУКАПІСНЫЯ КАЛЕНДАРЫ

Першыя звесткі аб календары знаходзяцца ў "Астраміравым евангеллі" (1056—1057). У старажытнейшым помніку стараславянскай пісьменнасці згадваюцца, у прыватнасці, назвы беларускіх і ўкраінскіх месяцаў.

Нямала каляндарнай інфармацыі захоўваецца ў рукапісных кнігах X—XVIII стагоддзяў, што былі створаны на беларускіх землях. Упершыню найбольш поўна распавёў пра старажытныя манускрыпты цудоўны іх знаўца Мікола Нікалаеў у кнізе "Палата рукапісная".

Нашы продкі здаўна і актыўна цікавіліся рознымі прыродазнаўчымі ведамі, у прыватнасці, касмалогіяй, астраноміяй, календаром, аб чым сведчыць наша бедная кніжная спадчына. Так, у рукапісным зборніку 1483 г. "Книга зовомая приточная Васка писаря пана Николая Радивиловича в лето 6991 индикта 1", апроч іншых матэрыялаў, выклікаюць цікавасць артыкулы "Течении месяца", "Початок и указ, как восходит месяц, в какой час дня и ночи". Шмат інфармацыі змяшчае рукапіс (690 аркушаў) "Ізмарагд", што быў перапісаны ў 1593 г. Іванам Праскурам у Супрасльскім манастыры. На 498 аркушы ўпамінаецца пра язычніцкія культы: "...не подобаеть християном игрь бесовьскых играти, иже есть плясьба, гоудьба, песни мирьскыя, и жертва идольская, иже молятся огневи подъ овиномь, и Мокошии, и Симоу, и Рьглоу, и Пероуну и Роду и Рожяници и всемь... имъ подобни". Пра касмалогію і астраномію з астралогіяй распавядаюць артыкулы "От шестодневника о солнци и луне, и о звездах и о планитах", "О весеннем равноденстве", "О седми звездах великих яже ся наричаются планеты, и силе их и о домех их".

Зборнік — "Палея" XVI ст. з Супрасльскага манастыра распавядае "О лунном течении, о величии неба, земли и звезд, о знаках небесных..", "О облацех", "О тверди", "О звездах", "О маланьях и о грому".

Даволі багатым і цікавым уяўляецца апісаны М. Нікалаевым Жыровіцкі рукапіс сярэдзіны XVI ст. "Мова помніка, — заўважае даследчык, — жывая, старабеларуская, цікавая багатаю лексікай... У артыкуле "Слово про создание всего мира от начала и до конца" чытач мае магчымасць пазнаёміцца са знакамі задыяка і знакамі планет, якія пасля шырока ўжываюцца ў каляндарных табліцах. Табліцы займаюць шмат аркушаў і ўяўляюць сабой цэлую сістэму практычнай храналагічнай інфармацыі: два трохтаблічныя каляндарныя комплексы змяшчаюць табліцы "вруцелет", велікоднай поўні, дадатковых лікаў. Ёсць табліца "зрячей пасхаліі" і роспіс першага радка яе для літары "А", табліца "семірочисленніка" для вызначэння дня тыдня кожнага месяца ў залежнасці ад значэння "вруцелета", табліца для вызначэння індэкса дня тыдня велікоднай поўні, дзень Вялікадня і іншыя, звязаныя з велікоднымі, разлікі, у залежнасці ад круга Сонца і круга Месяца. Ніжэй даюцца схематычныя малюнкі знакаў задыяка з грэчаскімі назвамі і характарыстыкамі ("злы", "сярэдні"). Апроч таго, змешчана табліца "Рука" з каляндарнымі разлікамі круга Месяца і эпакты, табліца з назваю "Круг лицита солнца", кругавая табліца, якая вызначае суадносіны паміж знакамі задыяка і некаторымі датамі кожнага месяца, вераснёвая табліца месячнага цячэння і гэтак званая "Пячатка цара Саламона...".

Тут жа запісы назіранняў за з'явамі прыроды, звязанымі з Месяцам і сонечнай актыўнасцю: "...если двумя рогами месяц ровно себя являет, либо северный рог чище будет, тогда назнаменует западные ветры", "если взойдет круг солнца выше месяца — осень длинная". Побач з астранамічнымі назіраннямі — вытлумачэнне такіх прыродных з'яў, як гром і маланка. Аўтар тлумачыць узнікненне грому і маланкі сутыкненнем хмар, даводзіць, што гром і маланка ўзнікаюць адначасова...

Развіццю хрысціянскай плыні ў беларускім народным календары спрыяла патрыстыка (сачыненні Айцоў царквы) і агіяграфія (жыціі святых). Сярод беларускіх рукапісных чытальных кніг, якія спісваліся з больш старадаўніх крыніц, былі тэксты, што складаліся па каляндарным прынцыпе для чытання на кожны дзень. Такімі, напрыклад, з'яўляюцца "Кніга жыцій святых базыльянаў на ўвесь год размеркаваных", Пролаг (зборнік кароткіх жыцій святых і павучэнняў на кожны дзень), Мінея (зборнік тэкстаў багаслужэнняў на кожны дзень, па месяцах), Мінея-чэцця (зборнік пазацаркоўнага чытання), беларускія рэдакцыі якіх уключалі імёны мясцовых святых.

## ДРУКАВАНЫЯ КАЛЕНДАРЫ І РОСКВІТ НАВУКІ

Палачанін Францыск Скарына, навучаючыся ў Кракаўскім (1504—1506 гг.) і Падуанскім (1512 г.) універсітэтах, апроч іншых, набываў астранамічныя веды, якія найбольш выявіліся ў яго "Малой падарожнай кніжыцы" (каля 1522 г.). Адзін з еўрапейскіх першадрукароў, адыходзячы ад царкоўных канонаў, падае навуковыя звесткі аб працягласці дня і ночы, раўнадзенстве і сонцастаянні, прадказаннях зацменняў, упершыню знаёміць шырокае кола чытачоў з рознымі ведамі геацэнтрычнай пталамееўскай астраноміі.

Ф. Скарына ўжо ў першых сваіх выданнях выкарыстоўвае хрысціянскае летазлічэнне (эра пачынаецца ад нараджэння Хрыста), у той час, калі ва ўсёй Кіеўскай мітраполіі ўжывалі — візантыйскае ("ад стварэння свету"). Расія толькі ў 1700 г. уводзіць новае летазлічэнне — найперш пад уплывам выданняў Скарыны і яго паслядоўнікаў.

"Малая падарожная кніжыца" — гэта першы друкаваны каляндар (на 1523—1543 гг.), "выложенный из греческого на русский язык", не толькі ва ўсходніх славян, але і сярод народаў былога СССР і некаторых народаў Еўропы. У ім змешчаны такія характэрныя для календара раздзелы, як "Псалтыр", "Часаслоў", "Шасцідневец", "Святцы", "Пасхалія" і інш., пададзены народныя назвы месяцаў (верасень, лістапад, грудзень, прасінец, стычань, люты, марэц, квецень...). Дзякуючы творам Скарыны і іншым беларускім выданням у Беларусі і Украіне замацаваны ў якасці афіцыйных нацыянальныя назвы месяцаў, у адрозненне ад іншых краін, дзе яны маюць лацінамоўнае (рымскае) паходжанне.

Праз дзейнасць Ф. Скарыны беларускія землі разам з іншымі еўрапейскімі краінамі аказаліся ў цэнтры распаўсюджвання перадавых каляндарных традыцый у сярэднія вякі. Варта згадаць і той факт, што Рэч Паспалітая, у якую ўваходзіла на федэратыўных пачатках Вялікае Княства Літоўскае, адна з першых чатырох краін (Італія, Іспанія і Партугалія) 15 кастрычніка 1582 прыняла новае грыгарыянскае летазлічэнне. Беларусь правяла рэформу календара раней Швейцарыі (1584), Прусіі (1610), Германіі (1700), Англіі (1752), Швецыі (1753), Японіі (1873) і многіх іншых высокаразвітых краін. Аб тым, што яна, як і ўсюды, пачыналася вельмі цяжка, распавядае ў прыватнасці Баркулабаўскі летапіс: "Року 1583 календар новый выдан... На той же час было великое замешание промеж панами и промеж людьми духовными, также и люди простыми было плачу великаго, нарекання силнаго, похвалки, посварки, забийство, грабежи, заклинания, видячи яко новые свята установляли, купцом торги албо ярмарки отменяли, право было начало пристья антихристова, у таком великом замешанью..."

Хрысціянскі каляндар адлюстраваны на многіх гравюрах скарынаўскіх выданняў. Асабліва вылучаецца тытульны ліст кнігі "Руф" (1519), дзе паказана жніво. Сярод іншых твораў эпохі Адраджэння ўражвае каляндарны цыкл гравюр мастака родам з Глуска Аляксандра Тарасевіча ў кнізе "Разарыум..." (1677). У дванаццаці гравюрах, якія маюць назвы 12 месяцаў года, даюцца праўдзівыя малюнкі жыцця і побыту сялян.

Варта тут успомніць і першы друкаваны расійскі каляндар. Ён з'явіўся ў 1699 годзе ў сувязі з рэформаю Пятра І. Ёсць меркаванне, што яго падрыхтаваў беларус Ілля Капіевіч, які з гэтага года пасяліўся ў Маскве, пераехаўшы з Амстэрдама, дзе ў яго была ўласная друкарня. Ён жа падрыхтаваў і выканаў для рэфарматара Пятра І удасканалены царкоўнаславянскі шрыфт для патрэб грамадзянскага пісьма, які сталі называць "амстэрдамаўскімі літарамі", "грамадзянскай" ці "беларускай азбукай". Дагэтуль расійскія самадзержцы карысталіся календарамі, выдадзенымі ў Польскім каралеўстве, Вялікім Княстве Літоўскім і інш.

Вядомы рускі збіральнік старасветчыны першай паловы XIX ст. і даследчык чарнакніжжа Іван Сахараў лічыў, што ў Расію варажбітныя і іншыя кнігі прыходзілі з замежжа, і, у прыватнасці, заўважаў: "Кажуць, што заклінальныя песні зайшлі ў рускую зямлю з Беларусі, Польшчы, Астзейскіх губерняў і Швецыі".

Развіццю каляндарнай сістэмы асабліва садзейнічаў агульны ўздым эканомікі і культуры ў Вялікім Княстве Літоўскім у XV—XVII стагоддзях, т. зв. "залатым веку", і наступных гадах. Беларускія хлопцы набывалі веды ў прэстыжных еўрапейскіх універсітэтах, пашыралася сетка і сваіх навучальных устаноў. З 1773 года дзейнічала Адукацыйная камісія, якая лічыцца першым у свеце міністэрствам адукацыі. Адкрываліся бібліятэкі. Унікальную музей-бібліятэку стварыў у Шчорсах віцэ-канцлер ВКЛ Яўхім Храптовіч, якую лічылі за гонар наведаць славутасці адукаванай Еўропы. У кнігадрукаванні Беларусь ішла паперадзе многіх краін. Развівалася астраномія, матэматыка, геаграфія і іншыя навукі. Нездарма ў самым першым сапраўдным еўрапейскім універсітэце на тэрыторыі ВКЛ — Віленскай езуіцкай акадэміі паспяхова дзейнічала астранамічная абсерваторыя, якой кіраваў каралеўскі астраном з еўрапейскай вядомасцю Марцін Пачобут, ураджэнец Гродзеншчыны, з 1780 года — рэктар акадэміі. Да гэтага трэба дадаць, што вольналюбівыя ідэі былога студэнта Кракаўскага ўніверсітэта і Віленскай акадэміі прывялі Казіміра Лышчынскага з Берасцейшчыны да інквізітарскага вогнішча ў 1689 годзе, як і Джардана Бруна. Думкі пра пакарэнне неба не пакідалі і першага вынаходца ў свеце шматступеневай ракеты шляхціца-ліцьвіна Казіміра Семяновіча, які апярэдзіў расійца К. Цыялкоўскага, бельгійца Р. Бінга, амерыканца Р. Гедарда больш чым на 250 гадоў, выпусціўшы ў 1650 годзе ў Амстэрдаме на лацінскай мове кнігу "Вялікае мастацтва артылерыі".

Самыя непасрэдныя адносіны да календара маюць гадзіннікі. Як сведчаць этнаграфічныя матэрыялы, беларусы ў мінулым добра арыентаваліся па становішчы зорак і сонца. У 1795 годзе ў беларускім мястэчку Дуброўна была пабудавана фабрыка сонечных гадзіннікаў, якая ў тым жа годзе была пераведзена ў вёску Купаўна пад Маскву. У музеі Ф. Багушэвіча экспануецца адзін такі экземпляр, якім, магчыма, карыстаўся першы народны паэт.

У Гродне на касцельнай званіцы адлічвае час самы старажытны вежавы гадзіннік ва ўсёй СНД — яму ўжо больш за 300 гадоў (па іншых звестках — 500). Як вядома, крамлёўскія куранты ўстаноўлены ў 1763 годзе. Тут дарэчы прыгадаць і тое, што больш за дваццаць беларускіх гарадоў старэй за Маскву.

Цікава і тое, што 16 малых планет Сонечнай сістэмы цяпер носяць беларускія назвы. Вельмі яркую характарыстыку эпохі Адраджэння ў свой час даў Максім Багдановіч: "узятае разам, вылучала Беларусь на адно з першых месцаў сярод культурнага славянства, ставячы яе далёка наперадзе Маскоўшчыны — тагачаснай славянскай глухамені, якая быццам чужаядная расліна жывілася духоўнымі сокамі Белай Русі". Аб гэтым гавораць і замежныя даследчыкі. Вядомы англійскі вучоны Генрык Бірнбаум у грунтоўнай працы "Некаторыя аспекты славянскага рэнесансу" пацвярджае: "толькі ў заходняй Русі, а дакладней кажучы, на Украіне і Беларусі, квітнела сапраўды гуманістычная літаратура".

Каляндарныя традыцыі беларусаў у сярэдневеччы і пазней складаліся на аснове развіцця моцнай мясцовай язычніцкай плыні, якая нівеліравалася ў багатым славянскім рэчышчы і абнаўлялася культурнымі і навуковымі дасягненнямі еўрапейскай цывілізацыі. Беларуская зямля, дзякуючы такім яе слаўным дзеячам, як Францыск Скарына, і свайму геаграфічнаму становішчу, стала добрым захавальнікам і памнажальнікам традыцыйнай культуры і перадавых ідэй, якія спрыялі развіццю каляндарнай справы ўсходніх славян і іншых народаў.

**Алесь ЛОЗКА**

## ЛіМ ЧАСАПІС

## *Шчыры меладыст*

ДА 100-годдзя З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ЗАСЛУЖАНАГА ДЗЕЯЧА МАСТАЦТВАЎ БЕЛАРУСІ КАМПАЗІТАРА Рыгора ПУКСТА

**Хтосьці з вялікіх сказаў, што музыка — гэта жменя нот, кінутых таленавітым чалавекам на пяць радкоў, але ў той жмені энергія вобразнай думкі і вялікага душэўнага ўздыму, здатная паланіць слухача. Калі слухаеш творы Рыгора Канстанцінавіча Пукста — сімфонію або раманс, — захапляешся энергіяй яго мастакоўскага роздуму і эмоцый.**



**Назіральны і ўдумлівы музыкант, ён заўсёды звяртаўся да яркіх і змястоўных тэм, умеў цаніць настрой хвіліны і пераменлівыя пералівы пачуццяў і адценняў у стане чалавека, захопленага гучнымі фарбамі прыроды ці паглыбленага ў роздум пра мінулае. У творах Пукста ёсць нешта ўстойлівае, тонка адабранае і прафільтраванае, пазначанае тэмпераментам мастака. Ён умеў "падслухаць" і тое, што *прасілася* ў музыку, і тое, чаго чакаў ад музыкі слухач.**

**Рыгор Пукст быў песняром характва. Ён пакінуў народу цудоўныя старонкі сваёй творчасці: сімфоніі, кантаты, оперы, рамансы, хоры, песні, апрацоўкі роднага фальклору. Яны гучалі і ў мірныя дні, і ў часы ваеннага ліхалецця. І заўсёды людзі з удзячнасцю і асалодай слухалі музыку Пукста.**

**Кампазітар з мастацкім густам выкарыстоўваў у сваёй творчасці багацце беларускіх народных мелодый. Успомнім фальклорныя эпізоды з яго оперы "Машэка", старонкі сімфанічнай сюіты "Сымон-музыка", фантазію "Перапёлачка", песні "Шумныя бярозы", "Ой, арол" і іншыя.**

**Галоўнае ў музыцы Пукста — яе сувязь з культурай беларускага народа. Менавіта таму аматарам і знаўцам прыгожага палюбіліся лепшыя старонкі яго шасці сімфоній, кантата "А хто там ідзе", опера "Марынка", харавая паэма "Партызанскія акопы", вакальны цыкл "Паэзія", цудоўныя песні "Шоўкавыя травы", "Мілы мой, прыйдзі", "Я — калгасніца", "Лугам зялененькім". Гэтыя і многія іншыя творы назаўсёды застануцца слаўнымі старонкамі беларускай музычнай спадчыны.**

**Наталля САКАЛОЎСКАЯ**

*На здымку: Р. ПУКСТ у 50-ыя гады.*
*Фота з Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва*

## *Добрыя весці нясуць... "Весці..."*

**Ды не абы-якія, а "Весці Акадэміі навук Беларусі" — навуковы часопіс, што выдаецца ў Мінску з 1940 года. Праўда, з 1942-га па 1946 год у яго выхадзе быў перапынак. Спачатку гэта было агульнае выданне для ўсіх аддзелаў акадэміі, але ў 1956 годзе часопіс падзелены на серыі: грамадскіх (пасля гуманітарных), біялагічных і фізіка-матэматычных навук. З 1963 года выдаецца серыя сельскагаспадарчых навук, а з 1965-га — фізіка-матэматычных, хімічных, з 1968-га — фізіка-энергетычных навук. Кожная з іх шырока адлюстроўвае праблемы пэўнага накірунку. У прыватнасці, серыя гуманітарных навук змяшчае матэрыялы ў раздзелах "Гісторыя", "Філасофія і сацыялогія", "Мастацтвазнаўства", "Этнаграфія, фальклор", "Літаратуразнаўства", "Мовазнаўства" і іншых.**

## *Даследаваў права*

**Споўнілася 250 гадоў з дня нараджэння прававеда, гісторыка Тодара Астроўскага (памёр 12 лютага 1802 года). Як і многія даследчыкі, працаваў вельмі плённа.**

**Аднак на сённяшні дзень асаблівую цікавасць уяўляе праца "Права цывільнае альбо асабліва польскага народу з статутаў і канстытуцый каронных і літоўскіх сабранае...", выдадзенае ў двух тамах. Двойчы на польскай мове: у 1784 годзе і другое выданне ў 1797—1802 гадах на нямецкай. Т. Астроўскі першым звярнуў увагу на неабходнасць навуковага аналізу Статута Вялікага княства Літоўскага 1588 года. У сваіх працах поруч з польскім правам разглядаў і права ВКЛ.**

**І даследаваў не толькі грамадзянскае права, а крымінальнае, працэсуальнае, судовую сістэму Рэчы Паспалітай 2-ой паловы XVIII стагоддзя.**

# Рыцар сонечнай стыхіі

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 7)*

Уладзімір Караткевіч пісаў тое, што хацеў. І тое, што вызначыў. Для сябе і іншых. Трэба заваяваць чытача. Пісалі ж дэтэктывы чэхі. Трэба давесці пра тое, што мы, беларусы, не горшыя за іншых. Усё ў нас ёсць. Усё ў нас было. І павінна быць. Была свая гісторыя. Свая культура — не ад рэвалюцыі 1917 года яна пачалася, як сцвярджалі многія афіцыйныя крыніцы і папулярызатары гэтых ідэй — ад інструктараў дзяржаўных устаноў да людзей з навуковымі званнямі.

Уладзімір Караткевіч быў не адзін на Беларусі. Над узнаўленнем гістарычнай праўды пра наш народ, нашу культуру працавалі (і працуюць) многія. Гісторыя, літаратура, філасофія, мастацтва, архітэктура, музыка... На той момант многае было напрацавана філосафам Уладзімірам Конанам, літаратуразнаўцамі Адамам Мальдзісам, Генадзем Кісялёвым, Генадзем Каханоўскім, Вячаславам Чамярыцкім, Міхасём Чарняўскім, гісторыкамі Анатолем і Валянцінам Грыцкевічамі, Міколам Ермаловічам (хаця яго працы пабачаць свет пазней)... Не буду працягваць пералік, ён будзе доўгі...

Справа рабілася неацэнная. Аднак жывое, мастацкае слова... Яркае, экспрэсіўнае... Мастацкі сусвет, дзе пануе і сонечная стыхія пачуццяў, і віхурна змяняюцца падзеі, і — вызначаецца таямніца вечных духоўных каштоўнасцяў. Уладзімір Караткевіч не проста заваяваў папулярнасць — для чытачоў, асабліва для моладзі, ён стаўся вызнаным аўтарытэтам, ганфаланьерам Беларускага Адраджэння. Кнігі яго — *на беларускай мове* — вокамгненна знікалі ў кнігарнях. Без рэкламы. Без "раскручвання" ў прэсе.

Публіка, абазнаная ў прыгожым пісьменстве, ставілася да яго больш патрабавальна. Рафінаваныя эстэты не прымалі ўвогуле — асабліва тыя, каму былі далёкія яго патрыятычныя, адраджэнскія ідэі. Калегі па цэху ўспрымалі яго па-рознаму. "Валодзя — белетрыст", — казаў пра яго адзін з найталенавіцейшых літаратурных равеснікаў, з лёгкай усмешкай і ведаючы слабыя бакі пісьменніцкага дару Уладзіміра Сямёнавіча.

Афіцыйна ж... Яму споўнілася ў 1979-м 49 год, былі напісаныя, па сутнасці, усе галоўныя рэчы: "Каласы пад сярпом тваім", "Хрыстос прызямліўся ў Гародні", "Ладдзя Роспачы", "Дзікае паляванне караля Стаха", "Сівая легенда", "Блакіт і золата дня", ну, адным словам, аповесці, апавяданні, п'есы, эсэ (выдатнейшыя), нарысы, — аднак ніякіх узнагарод і прэмій на той момант не было.

Гэта я вяртаюся да таго, з чаго пачынала свой допіс, да рэдакцыйнага заказу.

Узнагарод не было. Але ж, думалася мне, *талент дае Бог, а ўзнагароды і чыны* — людзі. То талент не заўважыць было нельга. У бібліятэку ішла з прадчуваннем, што патану ў бібліяграфіі і сур'ёзных артыкулах. І вельмі здзівілася, калі знайшла ў асноўным невялічкія газетныя выступленні, у тым ліку разгромныя. Сярод таго, на што абавязкова трэба было звярнуць самую пільную ўвагу: рэцэнзіі — Уладзіміра Калесніка на кнігу паэзіі "Матчына душа", Генадзя Кісялёва на раман "Каласы пад сярпом тваім" і водгук на аповесць "Чазенія" ў польскім часопісе "Przyjazn" Фларыяна Няўважнага.

Свой матэрыял я рабіла ўзлётна, як на хвалі, адчуваючы "повязь часоў", "блакіт і золата дня", разумеючы "музыку слоў", вызнаючы глыбокую мудрасць пісьменніка, яго самаахвярную любоў да Беларусі.

## РУЖЫ КАРАТКЕВІЧА

І выйшаў адзінаццаты нумар "Полымя". Ганарары тады атрымлівалі на другім паверсе Дома кнігі (на праспекце Машэрава, тады яшчэ — Паркавай магістралі). Пайшла і я атрымаць свае грошы. У чарзе да касіркі — мой герой: Уладзімір Сямёнавіч Караткевіч. Нехта пытаецца ў яго: "Ты ўжо чытаў у "Полымі"? Пра цябе". Караткевіч не проста адказвае, а рыкае, што тур: "Чытаў! Буду я іх чытаць! Крытыканы! Крытыкі!" Ён раз'ятрана крычыць яшчэ нешта. Мабыць, даліся яму ў знакі аглабельныя практыкаванні Якава Герцовіча і да яго падобных.

Мне — хоць праз усе тры паверхі (каса змяшчалася на трэцім паверсе) праваліцца. Сітуацыя... Аднак я звычайна пішу, як думаецца, не чакаючы падзяк аўтараў. І ўсё ж крыўдна. Ведаю — што несправядліва. Няпросты герой майго эсэ. Адно суцяшае — бушаваў а priori, не чытаўшы. І ўрэшце...

...Назаўтра сяджу я ў сваёй рэдакцыі ў выдавецтве "Мастацкая літаратура". Адна. Усе недзе разышліся.

Нечакана дзверы пачынаюць нібыта самі сабой расчыняцца. Паказваецца аграмадны букет белых ружаў. 79-ы год! Дастаць ружы ў снежні ў Мінску — усё роўна, што зорку з неба ўхапіць. Але той, што нясе ў руках гэтае ўвасабленне характва, здатны, мабыць, на ўсё — рыцар, паэт, чараўнік. Уладзімір Караткевіч.

Моўчкі ён кладзе кветкі на мой стол. А да іх — кораб (так!) цукерак, вялізны, што куфар з пасагам для нявесты. І яшчэ — кнігу пра Беларускі мастацкі музей і "Каляндар прыроды" на 1980 год. "Значыць, вы і ёсць Ала Сямёнава", — ён садзіцца за стол насупраць мяне. Я моўчкі раблю нейкі рух плячыма. "Маглі б і болей лаяць", — дадае Уладзімір Сямёнавіч. Такога намеру ў мяне не было, не люблю гэтае пратакольна-працэсуальнае дзейства: вось — станоўчыя якасці, вось — адмоўныя. Проста вяла гаворку пра творчасць Уладзіміра Караткевіча, імкнучыся не прамінуць ні вертыкаляў, ні гарызанталяў.

"Значыць, вы тут працуеце", — ён аглядвае наш пакой — рэдакцыі крытыкі і драматургіі, такое было спалучэнне. І мы доўга сядзім моўчкі. Я падпісваю яму сваю ксёнжачку — толькі што выйшла: "Гарачы след таленту". Там ёсць і эсэ пра Караткевіча: у кнізе яно пад назвай "Стагоддзяў срэбны звон", у часопісе — "Часоў жывая плынь".

Калі Уладзімір Сямёнавіч выходзіць з рэдакцыі, пачынаю разглядваць прэзенты. Ад Уладзіміра Караткевіча! На календары надпіс: "Альбіне Іванаўне Сямёнавай, каб пражыла год шчасліва і плённа і ў канцы года зрабіла мне справаздачу аб тым, што створана за гэты год. У. Караткевіч. 14 снежня 1979 г.".

Аднак шчаслівы год не прыпаў на долю — ні гэты, ні наступны... Абставіны майго жыцця склаліся так, што некалькі год былі амаль што перакрэсленыя — справаздача не атрымалася. А пайшоў з жыцця Уладзімір Караткевіч крыху больш як за месяц да смерці маёй мамы і ў адзін дзень з маім аднакурснікам Алегам Сініцкім, эрудытам і парадаксалістам: яму не нашмат перайшло за сорак.

Такія былі перасячэнні паводле Провіду...

Аднак я маю спадзеў, што дзе-небудзь у "бязмежжы хвалюючай вечнасці" змагу справаздачу трымаць — ці давядзецца ў кніжным выглядзе, не ведаю: са 140 аркушаў напісанага (аркуш — прыблізна 23 старонкі машынапісу) — крытычная проза, эсэ, уласна проза — толькі 34 аркушы ўвасобіліся ў кнігі, астатняе — параскіданае па перыёдыцы (часопісы "Крыніца", "Нёман", "Полымя", "Тэрмапілы" (Беласток), "Наша Вера", штотыднёвікі "ЛіМ", "Голас Радзімы", матэрыялы канферэнцый і кангрэсаў — напрыклад, кангрэсаў ПЭН-цэнтра — і г. д.), ляжыць у папках у шуфлядах пісьмовага стала і ў шафах, адданае немаведама на чыю волю...

Эсэ "Стагоддзяў срэбны звон" заўважылі: да 50-годдзя мне замовілі нататку ў адну з газет, у васьмітомніку (1987—1991 гг. — рэдактар тома Васіль Быкаў, выдавецкі рэдактар Святлана Прыгодзіч) яго змясцілі ў скарочаным варыянце, ЭЛІМБел прапанавала мне зрабіць артыкул пра Уладзіміра Караткевіча. Заўважылі эсэ і за межамі Беларусі: Юрый Сураўцаў — не так паводле пасады (ён быў тады першым сакратаром СП СССР), як па духоўнай і прафесійнай схільнасці і неабходнасці, ён умеў і ўмее не прамінуць нічога ў літаратуры, беларускай у прыватнасці, — тады вызначыў мой матэрыял.

Была і задума кнігі. Не спраўдзілася — не з маёй правіны. Але — такое бяды... З'явіліся шматлікія кнігі, безліч артыкулаў. Але — падчас і пасля юбілею. І — пасля смерці.

## СОНЦА ЗЯМЛІ

Юбілей прайшоў хораша. У Саюзе пісьменнікаў, у Доме літаратара мала памятаю такіх неафіцыйна таленавітых, такіх цёплых вечарын. І юбіляр быў нейкі сцішаны, па-мойму, здзіўлены — ордэн Дружбы народаў, дружная ўвага.

Былі пазней і прэміі — Літаратурная імя І. Мележа і Дзяржаўная імя Якуба Коласа.

Аднак колькі лаўрэатаў і якіх, як сёння мовілі б, прэстыжных прэмій, засталіся толькі на кніжных паліцах і ў пратаколах урачыстасцяў, на старонках старых перыядычных выданняў. Уладзімір Караткевіч — усе гэтыя гады: актыўна чытаецца, жыве ў памяці, сам ператвараецца ў легенду.

І я бяру з паліцы кнігі Караткевіча: васьмітомнік, двухтомнік, "Зямля пад белымі крыламі", "Чорны замак Альшанскі", "Нельга забыць", "Дзікае паляванне караля Стаха"... І зусім ужо зачытаныя — "Матчына душа", "Вячэрнія ветразі", "Блакіт і золата дня"..

Перагортваю старонкі...

Адчуваю магутны ўплыў сонечнай стыхіі таленту Уладзіміра Караткевіча.

Думаю — пра феномен творчасці Уладзіміра Караткевіча.

Заснавальнік беларускага гістарычнага рамана (спробы Б. Мікуліча: "Адвечнае" і Б. Садковіча і Е.Львова: "Францыск Скарына" — па сутнасці, толькі падыходы да асваення жанру). Раман "Каласы пад сярпом тваім", нават няскончаны — шырокае сацыяльна-гістарычнае палатно пра пярэдадзень найважнейшай, этапнай падзеі ў гісторыі Беларусі: паўстання 1863 г. Гэта, дарэчы, і раман выхавання, што ўвабраў у сябе традыцыі такога жанру ў заходнееўрапейскай і рускай літаратурах.

Гістарыясофскі раман "Хрыстос прызямліўся ў Гародні" — зусім новы для беларускай літаратуры стыль мыслення, стыль выкладання, стыль пісьма... Зусім новыя і разнастайныя сюжэтныя ходы, новая гістарычная канцэпцыя, новы мастацкі рытм... Праўда і ілюзія... Упершыню ў мастацкі ўжытак шырока ўведзеныя матэрыялы хронік і летапісаў, парафразы біблейскіх тэкстаў, варыяцыі ў розных кантэкстах біблейскіх выразаў і народных выслоўяў.

А "Сівая легенда", "Цыганскі кароль", "Паром на бурнай рацэ"... Можна пералічаць доўга.

Глыбокае, дасканалае веданне фактаў, падзей, рэалій часу. Веданне мастацтва, архітэктуры, этнаграфіі, фальклору, літаратуры. Сусветных і беларускіх. Віртуознае валоданне сюжэтам, фабулай. І — мастацкая "рэканструкцыя" часу, сацыяльнага і побытавага каларыту, псіхалогіі людзей, самасвядомасці. Жывы подых часоў, водар жыцця. Тое, што даецца творчай інтуіцыяй, мастакоўскімі зрокам, слыхам, усімі чуццямі, культурай ведаў — *і геннай памяццю, геннай культурай, генезісам маральнага "я"*. Тым, што не сёння з'явілася, мела гістарычны шлях, перадавалася гадамі, стагоддзямі, у пэўных свядомасных, сітуацыйных, падзейных, сацыяльных умовах. Як вядома, Уладзімір Караткевіч меў дваранскія карані, і ганарыўся гэтым — у тую пару, калі ніхто яшчэ сутаргава не шукаў у сабе якой кропелькі блакітнай крыві, а наадварот — большасць імкнулася падкрэсліць свой рабоча-сялянскі патомны статус.

Ён быў эрудытам. Калі ведаў, дык ведаў дакладна. І пра Гарадзенскі замак, і пра ўсе гістарычныя перыпетыі горада



*Квартэт "Купалінка" Дзяржаўнага народнага хору Беларусі імя Генадзя Цітовіча вітае У. Караткевіча ў дзень 50 годдзя.*



*У. Караткевіч на кінастудыі "Беларусьфільм", 1979 г.*
*Фота Ул. КРУКА*

# З цеплынёй пра Астравеччыну

***Каторы куток Бацькаўшчыны ні возьмеш, ён багаты на яркія, самабытныя таленты. Толькі чамусьці атрымліваецца так, што далёка не ўсе іх мы належным чынам заўважаем і ацэньваем. Як правіла, першаступенная ўвага надаецца паэтам, празаікам, драматургам, крытыкам і літаратуразнаўцам, выхадцам з тых ці іншых мясцін. Гэта, безумоўна, апраўдана, асабліва калі набыткі аўтара значныя. Як і апраўдана і тое, што пастаянна ў полі зроку мясцовых улад знаходзіцца развіццё мастацкай самадзейнасці, хоць тут, трэба прызнаць, "няма таго, што раньш было". Аднак куды меней гаворыцца пра самадзейных кампазітараў, мастакоў. А сярод жа іх нямала цікавых творцаў.***

***Адзін з іх — Алег Драбышэўскі. Філолаг па адукацыі, мастак — па прызванні. Нарадзіўся Алег Альфонсавіч ў 1953 годзе ў пасёлку Гудагай Астравецкага раёна. Любоў да літаратуры прывяла яго на філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта, які А. Драбышэўскі скончыў у 1976 годзе. Адначасова наведваў заняткі ў Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытутце. Дарэчы, Алег Альфонсавіч з людзей, якія разумеюць, што вучыцца ніколі не позна, а яшчэ лепш, калі ўдасканальваць з цягам часу свае першапачатковыя веды. Таму ў 1985 годзе ён атрымаў грамадскую прафесію кіраўніка выяўленчай студыі, мастака ў Мінскім педагагічным інстытуце імя А. М. Горкага.***

***Сталася так, што любоў да мастацтва ўсё ж перамагла ў А. Драбышэўскім філолага. Ён выкладае ў Астраўцы выяўленчае мастацтва і сусветную мастацкую культуру. І, канечне ж, нямала працуе. Найперш у галіне жывапісу, але займаецца таксама скульптурай, мастацкім афармленнем.***

***А. Драбышэўскі-жывапісец — гэта ўлюбёнасць у прыроду, уменне адчуваць душой яе хараство і непаўторнасць, таму асаблівага поспеху ён дасягнуў у галіне пейзажа, у чым неаднаразова маглі ўпэўніцца наведвальнікі яго выставак, што працавалі ў Астраўцы. А нядаўна ў Алега Альфонсавіча выйшаў альбомам, у якім прадстаўлены лепшыя творы пейзажнага жывапісу. З альбомам меў магчымасць пазнаёміцца і народны пісьменнік Беларусі Іван Шамякін. У сувязі з гэтым паэт Мікола Мятліцкі ўзяў у Івана Пятровіча інтэрв'ю.***




**— Іван Пятровіч, вы пабывалі ва ўсіх раёнах Беларусі, за выключэннем Астрацецкага. Цяпер, можна сказаць, своеасаблівае адкрыццё Астравеччыны адбылося дзякуючы Алегу Драбышэўскаму...**

— На вялікі жаль, я нядаўна пазнаёміўся з Алегам і не так шмат бачыў арыгіналаў яго карцін. Кажучы шчыра, мяне яго працы прывялі ў захапленне. Я ўсё-такі рэаліст. Так сказаць, сучасныя стылі і сучасную моду мастацкую не вельмі прымаю, а такія рэалістычныя пейзажы проста кранаюць за сэрца, нагадваюць мне многія родныя мясціны. Алег канкрэтна называе абагулены пейзаж "Радзіма". Я — сына лесніка. І ў нас на ўзлеску былі такія ж краявіды, такія ж сосны, такія елкі стаялі. "Двор маленства" — таксама знаёмая хата, хоць я гомельскі, а гэта поўнач. Вось "Перавознікі". Кранае сэрца Вілія, гэтая хата, тым больш, калі я даведаўся, Мікола, што гэта хата тваёй жонкі Ірыны, якая нарадзілася і вырасла ў ёй. Неяк вельмі прыбліжана я люблю гэтых людзей. "Цяпло восені" — адчуваеш тое, што нават увосень грэе душу. І многія іншыя працы запамінаюцца. "Брод ля млына" — сапраўды, брод. "Плынь Ашмянкі". Каторы твор ні возьмеш, ёсць чым палюбавацца. Ён абуджае пачуцці. Я думаю, абыякавым да напісанага Драбышэўскім нельга застацца.

**— Ці ўзнікла ў вас адчуванне, што наша Беларусь літаральна ўся прыгожая і тая частачка Астравеччыны, дзе вам, на жаль, не ўдалося пабываць, не выключэнне з гэтай гармоніі хараства?**

— Думаю, такое адчуванне ёсць. Беларусь і сапраўды прыгожая, прыгожыя яе мясціны.

**— Ці кампенсаваў мастак сваімі палотнамі вашу непрысутнасць там, дзе не пабывалі? Ці адчула душа менавіта тое, што вы і хацелі б бачыць ад нашай Беларусі ў будучым?**

— Безумоўна, душа адчула. Хочацца толькі адно, каб мы не страцілі гэту прыгажосць.

**— Іван Пятровіч, ці верыце вы ў тое, што ёсць яшчэ лясы на гэтай Астравеччыне, дзе проста пад платамі хутароў растуць такія цудоўныя грыбы, як рыжыкі?**

— Паколькі я іх еў, не магу не верыць.

**— Дык вось гэтая зямля мне стала таксама роднаю. Можа, любоў і да паэзіі, і да слова, і да творчасці абуджаецца якраз тады, калі бачыш, што ёсць такі цёплы пясок, такі іскрысты бераг і ёсць такія цудоўныя людзі, як Алег Драбышэўскі.**

— Мне хочацца падзякаваць Алегу за яго працы, хочацца пажадаць яму новых творчых адкрыццяў, здабыткаў. Думаю, што ў яго ўзросце яшчэ ўсё наперадзе, яшчэ будзе створаны не адзін твор, які ўзбагаціць наша мастацтва выяўленчае і нашу культуру ўвогуле.

**— А што вы хацелі б пажадаць, Іван Пятровіч, людзям Астравеччыны, Алегавым землякам, якія жывуць на ўскрайку нашай Радзімы, каля граніцы?**

— Я думаю, яны не на ўскрайку. Яны ўсё-такі ў цэнтры, хаця б таму, што гэта нашы людзі, беларусы, шчырыя працаўнікі. У іх выдатныя, прыгожыя мясціны, яны там прыжыліся хораша і хораша працуюць. Мне хочацца проста пажадаць шчасця і міру і сваім землякам-гамяльчанам, і Алегавым землякам з Астравеччыны. Не лічу што яна на краі, лічу, што яна ў сэрцы і тваім, і маім, і ў сэрцы кожнага шчырага беларуса.

**— Дзякуй, Іван Пятровіч, вам за такія цёплыя словы.**

# Суфлёр

ПАДКАЗКІ—АНОНСЫ—ПАРАДЫ АД "ЛіМа"

**РАМПА**

**Прэм'ера "Барыса Гадунова" ў пастаноўцы Мікалая Пінігіна, што павінна была адбыцца ў суботу, адменена. Справа ў тым, што проста да спектакля не паспелі зрабіць дэкарацыі.**

**Балет**

*24 лістапада* — "Эсмеральда"
*26* — "Шчаўкунок"
*29* — "Жар-птушка" і "Вясна святарная"

**Опера**

*25 лістапада* — "Яўген Анегін"
*26* — "Кот у ботах"
*28* — "Травіята"
*30* — "Князь Ігар"

**Купалаўскі тэатр**

24 лістапада — "Ідылія"
25 — "Касцюмер"
27 — "Ромул Вялікі"

**Малая сцэна Купалаўскага**

*24 і 25 лістапада* — "Восеньская саната"
*26* — "Разбітае сэрца"

**Тэатр імя Горкага**

*25 і 26 лістапада* — "Гамлет"
*28* — "Баляванне падчас чумы і..."
*30* — "На залатым возеры"

**Музычны тэатр**

*24 лістапада* — "Севастопальскі вальс"
*30* — "Дарагая Памела"

**Прадзюсерскі цэнтр "Альфа-радыё"**

*24-26 лістапада* — "Дотык"

**Тэатр-студыя кінаакцёра**

*25—26 лістапада* — "Шчаўкунок"
*28* — юбілейная вечарына тэатра

**Малы тэатр**

*28 і 30 лістапада* — "Камедыя"

**Тэатр беларускай драматургіі**

*25 і 26 лістапада* — "Стомлены д'ябал"
*29 і 30* — "Макбет"

**ВЫСТАВЫ**

**Нацыянальны мастацкі музей**

Да *6 снежня* — Беларускі фонд культуры разам з прадпрыемствам "Мінскрэстаўрацыя" прадстаўляюць калекцыю адноўленых абразоў 17-18 стагоддзяў. Выстава прысвячаецца 30-годдзю творчай дзейнасці вядомых рэстаўратараў Пятра Журбея і Аркадзя Шпунта.

**Музей гісторыі беларускай літаратуры**

Тут працягвае працаваць выстава беларускага шкла. Выстава дзейнічае да сярэдзіны студзеня наступнага года.

**КАНЦЭРТЫ**

*24, 25 і 26 лістапада* — "Н.Р.М." у межах гастрольнага тура па Беларусі са сваім новым альбомам "Тры чарапахі" выступіць адпаведна ў Гродне, Слоніме і Брэсце. У снежні Беларуская музычная альтэрнатыва ладзіць тур "Вольных танцаў".

*8 снежня* ў Оршы ў кінатэатры "Перамога".

*9 снежня* ў магілёўскім Палацы культуры піянераў.

*15 снежня* ў Брэсце ў Доме культуры прафсаюзаў.

*16 снежня* ў Гродне ў Доме культуры хімікаў.

*22 снежня* ў Гомелі ў Абласным культурным цэнтры адбудуцца канцэрты з удзелам "Палаца", "Postscriptum" "Акругі вольнага мастацтва", "Крамы", "Нейра Дзюбеля", "Н.Р.М.", "Крыві" і іншых.

**ЗАПРАШАЕ КІНАТЭАТР "ЗМЕНА"**

*26 лістапада* а 15-ай гадзіне разам з Таварыствам беларускай мовы ладзіцца кінапраграма да 70-годдзя з дня нараджэння Уладзіміра Караткевіча. Будзе паказаны фільм "Хрыстос прызямліўся ў Гародні". Выступяць старшыня ТБМ Алег Трусаў, пісьменнік Кастусь Тарасаў, гісторык Уладзімір Скалабан, рэжысёр Уладзімір Арлоў.

Марцін КОЎЗКІ

## Доля праўды

Я б сказаў "гарыць на рабоце", каб не знаў, што і ржа — гарэнне.

●

"Староннім уваход забаронены". Дзверы нібыта рыкаюць, разам з гаспадарамі хворыя на манію вялікасці. Бы ў дурным сне не адчыняюцца дзверы. Толькі ў пэўныя дні, толькі асоба давераным. Звужаюцца калідоры, цяжка становіцца дыхаць. Як на выратавальны круг, глядзіш на таблічку "Выхад".

●

Выяўляецца, што ад перамены месцаў складаемых сума мяняецца, — недзе раскрадаецца.

ПАРОДЫІ

Уладзімір ЕРМАЛАЕЎ

## Каханне з перапалоху

Я за сталом. У келіх
льюць віно,
віно пад дзіўнай
назваю "Каханне".
. . . . . . . . . . . . . . .
Другі, яго таварыш,
звар'яцеў.
...і недзе галаву
сваю падзеў.
. . . . . . . . . . . . . . . . .
Зашмат табе магла б
я даць,
але ж трываю
ледзьве-ледзьве.

**Ірына ХАДАРЭНКА**

***Сяджу цішэй вады,***
***ніжэй травы***
***і моўчкі за табою назіраю.***
***Душа трымціць,***
***і сэрца замірае:***
***Ты — за сталом,***
***але без галавы.***
***Віно "Каханне"***
***піў і звар'яцеў,***
***куды цябе такога —***
***не ўяўляю.***
***Калі ўстанеш —***
***неяк падтрымаю.***
***Хадзем шукаць:***
***дзе галаву падзеў?***

***Мне больш не трэба келіх***
***напаўняць,***
***і ты маім каханнем***
***не ўпівайся.***
***Зашмат табе***
***магла б я сёння даць...***
***З перапалоху***
***мушу абяцаць,***
***а страх міне —***
***тады не спадзявайся.***




ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА — ЛіМ — ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**





**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**

220005, Мінск, вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**

прыёмная рэдакцыі — 284-8461
намеснікі галоўнага рэдактара — 284-8525, 284-7985

АДДЗЕЛЫ:
публіцыстыкі — 284-8204
пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7985
літаратурнага жыцця — 284-8462
крытыкі і бібліяграфіі — 284-7985
паэзіі і прозы — 284-8204
музыкі — 284-8153
тэатра, кіно і тэлебачання — 284-8153
выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 284-8462
навін — 284-8462
мастацкага афармлення — 284-8204
фотакарэспандэнт — 284-8462
бухгалтэрыя — 284-8462





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856
Наклад 2812
Нумар падпісаны ў друк 23.11.2000 г. у 17.30

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 6206

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12